# ЗМЕСТ



Менск, друкарня «Звязды. Здана ў набор 23-1-36 г. Падпісана да друку 2-ІІ-36 г.
Уп. Галоўлітбела № 3218. Тыраж 1140 экз. 2 з пал. друк. арк. У арк. 75.000 знак.

Са сцягам Леніна перамаглі мы ў баях за Кастрычніцкую рэволюцыю.

Са сцягам Леніна дабіліся мы рашаючых поспехаў у барацьбе за перамогу соцыялістычнага будаўніцтва.

З гэтым-жа сцягам пераможам мы ў пролетарскай рэволюцыі ва ўсім свеце.

Няхай жыве ленінізм!

СТАЛІН



Помните, любите, изучайте Ильича, нашего учителя, нашего вождя.

Боритесь и побеждайте врагов, внутренних и внешних, — по Ильичу.

Стройте новую жизнь, новый быт, новую культуру — по Ильичу.

Никогда не отказывайтесь от малого в работе, ибо из малого строится великое, — в этом один из важных заветов Ильича.

И. Сталин

**Фото пісьма таварыша Сталіна, змешчанага ў «Рабочей газете» ў першую гадавіну смерці В. І. Леніна.**

**Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся!**

# Большэвіцкі друк

ЖУРНАЛ ЦК КП(б)Б

№ 1-2 (50)

РЭДКАЛЕГІЯ: Н. Стэрнін, А. Джэлюк (адказны рэдактар), А. Цыпіна, С. Семашко, Л. Глезер.

СТУДЗЕНЬ 1936 г.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: Менск, Савецкая, 63, тэл. 22-412

# Па повадУ смерці Леніна

**Прамова таварыша СТАЛІНА на II Усесаюзным з'ездзе советаў 26 студзеня 1924 г.**

Таварышы! Мы, комуністы, — людзі асобага складу. Мы скроены з асобага матэрыялу. Мы — тыя, якія складаем армію вялікага пролетарскага стратэга, армію тав. Леніна. Няма нічога вышэй, як гонар належаць да гэтай арміі. Няма нічога вышэй, як званне члена партыі, аснавальнікам і кіраўніком якой з'яўляецца таварыш Ленін. Не ўсякаму дана быць членам такой партыі. Не ўсякаму дана вытрымаць нягоды і буры, звязаныя з членствам у такой партыі. Сыны рабочага класа, сыны нужды і барацьбы, сыны неймаверных лішэнняў і гераічных намаганняў — вось хто, перш за ўсё, павінны быць членамі такой партыі. Вось чаму партыя ленінцаў, партыя комуністаў называецца разам з тым партыяй рабочага класа.

УХОДЗЯЧЫ АД НАС, ТАВАРЫШ ЛЕНІН ЗАВЯШЧАЎ НАМ ТРЫМАЦЬ ВЫСОКА І ЗАХОЎВАЦЬ У ЧЫСТАЦЕ ВЯЛІКАЕ ЗВАННЕ ЧЛЕНА ПАРТЫІ. КЛЯНЕМСЯ ТАБЕ, ТАВАРЫШ ЛЕНІН, ШТО МЫ З ГОНАРАМ ВЫКАНАЕМ ГЭТУ ТВАЮ ЗАПАВЕДЗЬ!

25 гадоў пеставаў таварыш Ленін нашу партыю і выпеставаў яе, як самую моцную і самую загартаваную ў свеце рабочую партыю. Удары царызма і яго апрычнікаў, шаленства буржуазіі і памешчыкаў, узброеныя напады Калчака і Дзенікіна, узброенае ўмяшанне Англіі і Францыі, хлусня і паклёп стовустага буржуазнага друку, — усе гэтыя скарпіёны нязменна падалі на галаву нашай партыі на працягу чвэрці века. Але наша партыя стаяла, як уцёс, адбіваючы бязлікія ўдары ворагаў і вядучы рабочы клас наперад, да перамогі. У жорсткіх баях выкавала наша партыя адзінства і згуртаванасць сваіх радоў. Адзінствам і згуртаванасцю дабілася яна перамогі над ворагамі рабочага класа.

УХОДЗЯЧЫ АД НАС, ТАВАРЫШ ЛЕНІН ЗАВЯШЧАЎ НАМ ЗАХОЎВАЦЬ АДЗІНСТВА НАШАЙ ПАРТЫІ, ЯК ЗЯНІЦУ ВОКА. КЛЯНЕМСЯ ТАБЕ, ТАВАРЫШ ЛЕНІН, ШТО МЫ З ГОНАРАМ ВЫКАНАЕМ І ГЭТУ ТВАЮ ЗАПАВЕДЗЬ!

Цяжкая і нязносная доля рабочага класа. Мучыцельны і цягасны пакуты працоўных. Рабы і рабаўладальнікі, прыгонныя і прыгоннікі, сяляне і памешчыкі, рабочыя і капіталісты, прыгнечаныя і прыгнятальнікі, — так будаваўся свет спакон вякоў, такім ён астаецца і цяпер у велізарнай большасці краін. Дзесяткі і сотні раз прабавалі працоўныя на працягу вякоў скінуць з плеч прыгнятальнікаў і стаць панамі свайго становішча. Але кожны

раз, разбітыя і аганьбаваныя, вымушаны былі яны адступіць, тоячы ў душы крыўду і зняваву, злобу і роспач і накіроўваючы ўзрокі на невядомае неба, дзе яны спадзяваліся знайсці ратунак. Ланцугі рабства аставаліся някранутымі, або старыя ланцугі змяняліся новымі, такімі-ж цяжкімі і ўніжальнымі. Толькі ў нашай краіне ўдалося прыгнечаным і задаўленым масам працоўных скінуць з плеч панаванне памешчыкаў і капіталістаў і паставіць на яго месца панаванне рабочых і сялян. Вы ведаеце, таварышы, і цяпер увесь свет прызнае гэта, што гэтай гігантскай барацьбой кіраваў таварыш Ленін і яго партыя. Веліч Леніна ў тым, перш за ўсё, і заключаецца, што ён, стварыўшы Рэспубліку Советаў, тым самым паказаў на справе прыгнечаным масам усяго свету, што надзея на ратунак не страчана, што панаванне памешчыкаў і капіталістаў нядоўгавечна, што царства працы можна стварыць намаганнямі саміх працоўных, што царства працы трэба стварыць на **зямлі**, а не на небе. Гэтым ён запаліў сэрцы рабочых і сялян усяго свету надзеяй на вызваленне. Гэтым і тлумачыцца той факт, што імя Леніна стала самым любімым імем працоўных і эксплаатуемых мас.

УХОДЗЯЧЫ АД НАС, ТАВАРЫШ ЛЕНІН ЗАВЯШЧАЎ НАМ ЗАХОЎВАЦЬ І ЎМАЦОЎВАЦЬ ДЫКТАТУРУ ПРОЛЕТАРЫЯТА. КЛЯНЕМСЯ ТАБЕ, ТАВАРЫШ ЛЕНІН, ШТО МЫ НЕ ПАШКАДУЕМ СВАІХ СІЛ ДЛЯ ТАГО, КАБ ВЫКАНАЦЬ З ГОНАРАМ І ГЭТУ ТВАЮ ЗАПАВЕДЗЬ!

Дыктатура пролетарыята стварылася ў нашай краіне на аснове саюза рабочых і сялян. Гэта першая і карэнная аснова Рэспублікі Советаў. Рабочыя і сяляне не маглі-б перамагчы капіталістаў і памешчыкаў без наяўнасці такога саюза. Рабочыя не маглі-б разбіць капіталістаў без падтрымання сялян. Сяляне не маглі-б разбіць памешчыкаў без кіраўніцтва з боку рабочых. Аб гэтым гаворыць уся гісторыя грамадзянскай вайны ў нашай краіне. Але барацьба за ўмацаванне Рэспублікі Советаў далёка яшчэ не закончана,—яна прыняла толькі новую форму. Раней саюз рабочых і сялян меў форму ваеннага саюза, бо ён быў накіраван супроць Калчака і Дзенікіна. Цяпер саюз рабочых і сялян павінен прыняць форму гаспадарчага супрацоўніцтва паміж горадам і вёскай, паміж рабочымі і сялянамі, бо ён накіраван супроць купца і кулака, бо ён мае сваёй мэтай узаемнае снабжэнне сялян і рабочых усім неабходным. Вы ведаеце, што ніхто так настойліва не праводзіў гэту задачу, як таварыш Ленін.

УХОДЗЯЧЫ АД НАС, ТАВАРЫШ ЛЕНІН ЗАВЯШЧАЎ НАМ УМАЦОЎВАЦЬ УСІМІ СІЛАМІ САЮЗ РАБОЧЫХ І СЯЛЯН. КЛЯНЕМСЯ ТАБЕ, ТАВАРЫШ ЛЕНІН, ШТО МЫ З ГОНАРАМ ВЫКАНАЕМ І ГЭТУ ТВАЮ ЗАПАВЕДЗЬ!

Другой асновай Рэспублікі Советаў з'яўляецца саюз працоўных нацыянальнасцей нашай краіны. Рускія і украінцы, башкіры і беларусы, грузіны і азербайджанцы, армяне і дагестанцы, татары і кіргізы, узбекі і туркмены, — усе яны аднолькава зацікаўлены ва ўмацаванні дыктатуры пролетарыята. Не толькі дыктатура пролетарыята выратоўвае гэтыя народы ад ланцугоў і прыгнечання, але і гэтыя народы выратоўваюць нашу Рэспубліку Советаў ад козней і вылазак ворагаў рабочага класа сваёй беззаветнай адданасцю Рэспубліцы Советаў, сваёй гатоўнасцю абараняць за яе. Вось чаму таварыш Ленін нястомна гаварыў нам аб неабходнасці добраахвотнага саюза народаў нашай краіны, аб неабходнасці брацкага іх супрацоўніцтва ў рамках Саюза Рэспублік.

**УХОДЗЯЧЫ АД НАС, ТАВАРЫШ ЛЕНІН ЗАВЯШЧАЎ НАМ УМАЦОЎВАЦЬ І РАСШЫРАЦЬ САЮЗ РЭСПУБЛІК. КЛЯНЕМСЯ ТАБЕ, ТАВАРЫШ ЛЕНІН, ШТО МЫ ВЫКАНАЕМ З ГОНАРАМ І ГЭТУ ТВАЮ ЗАПАВЕДЗЬ!**

Трэцяй асновай дыктатуры пролетарыята з'яўляецца наша Чырвоная армія, наш Чырвоны флот. Ленін не раз гаварыў нам, што перадышка, адваяваная намі ў капіталістычных дзяржаў, можа аказацца кароткачасовай. Ленін не раз указваў нам, што ўмацаванне Чырвонай арміі і паляпшэнне яе становішча з'яўляецца адной з важнейшых задач нашай партыі. Падзеі, звязаныя з ультыматумам Керзана і з крызісам у Германіі, лішні раз пацвердзілі, што Ленін быў, як і заўсёды, праў. Паклянемся-ж, таварышы, што мы не пашкадуем сіл для таго, каб умацаваць нашу Чырвоную армію, наш Чырвоны флот.

Велізарным уцёсам стаіць наша краіна, акружаная акіянам буржуазных дзяржаў. Хвалі за хвалямі коцяцца на яе, пагражаючы затапіць і размыць. А ўцёс усё трымаецца непахісна. У чым яе сіла? Не толькі ў тым, што краіна наша трымаецца на саюзе рабочых і сялян, што яна ўвасабляе саюз свабодных нацыянальнасцей, што яе абараняе магутная рука Чырвонай арміі і Чырвонага флота. Сіла нашай краіны, яе моц, яе трываласць заключаецца ў тым, што яна мае глыбокае спачуванне і непарушнае падтрыманне ў сэрцах рабочых і сялян усяго свету. Рабочыя і сяляне ўсяго свету хочуць захаваць Рэспубліку Советаў, як стралу, пушчаную вернай рукой таварыша Леніна ў стан ворагаў, як апору сваіх надзей на выратаванне ад гнёту і эксплаатацыі, як верны маяк, які ўказвае ім шлях вызвалення. Яны хочуць яе захаваць, і яны не дадуць яе разбурыць памешчыкам і капіталістам. У гэтым наша сіла. У гэтым сіла працоўных усіх краін. У гэтым-жа слабасць буржуазіі ўсяго свету.

Ленін ніколі не глядзеў на Рэспубліку Советаў, як на самамэту. Ён заўсёды разглядаў яе, як неабходнае звяно для ўзмацнення рэволюцыйнага руху ў краінах Захада і Ўсхода, як неабходнае звяно для аблягчэння перамогі працоўных усяго свету над капіталам. Ленін ведаў, што толькі такое разуменне з'яўляецца правільным не толькі з пункту гледжання міжнароднага, але і з пункту гледжання захавання самой Рэспублікі Советаў. Ленін ведаў, што толькі такім шляхам можна ўспламяніць сэрцы працоўных усяго свету да рашучых баёў за вызваленне. Вось чаму ён, геніяльнейшы з геніяльных правадыроў пролетарыята, на другі-ж дзень пасля пролетарскай дыктатуры заклаў фундамент інтэрнацыянала рабочых. Вось чаму ён не стамляўся расшыраць і ўмацоўваць саюз працоўных усяго свету — Комуністычны Інтэрнацыянал.

Вы бачылі за гэтыя дні паломніцтва да гроба таварыша Леніна дзесяткаў і соцень тысяч працоўных. Праз некаторы час вы ўбачыце паломніцтва прадстаўнікоў мільёнаў працоўных да магілы таварыша Леніна. Можаце не сумнявацца ў тым, што за прадстаўнікамі мільёнаў пацягнуцца потым прадстаўнікі дзесяткаў і соцень мільёнаў з усіх канцоў свету для таго, каб засведчыць, што Ленін быў правадыром не толькі рускага пролетарыята, не толькі еўрапейскіх рабочых, не толькі каланіяльнага Ўсхода, але і ўсяго працоўнага свету зямнага шара.

**УХОДЗЯЧЫ АД НАС, ТАВАРЫШ ЛЕНІН ЗАВЯШЧАЎ НАМ ВЕРНАСЦЬ ПРЫНЦЫПАМ КОМУНІСТЫЧНАГА ІНТЭРНАЦЫЯНАЛА. КЛЯНЕМСЯ ТАБЕ, ТАВАРЫШ ЛЕНІН, ШТО МЫ НЕ ПАШКАДУЕМ СВАЙГО ЖЫЦЦЯ ДЛЯ ТАГО, КАБ УМАЦОЎВАЦЬ І РАСШЫРАЦЬ САЮЗ ПРАЦОЎНЫХ УСЯГО СВЕТУ — КОМУНІСТЫЧНЫ ІНТЭРНАЦЫЯНАЛ!**

*І. В. СТАЛІН*

# Аб Леніне

**Прамова на вечары крэмлёўскіх курсантаў 28 студзеня 1924 г.**

Таварышы! Мне сказалі, што ў вас тут наладжан вечар успамінаў аб Леніне, а я запрошан на вечар у якасці аднаго з дакладчыкаў. Я лічу, што няма патрэбы рабіць звязны даклад аб дзейнасці Леніна. Я думаю, што было-б лепш абмежавацца паведамленнем раду фактаў, адзначаючых некаторыя асаблівасці Леніна, як чалавека і як дзеяча. Паміж гэтымі фактамі, можа быць, і не будзе ўнутраной сувязі, але гэта не можа мець рашаючага значэння для таго, каб атрымаць агульнае ўяўленне аб Леніне. Ва ўсякім выпадку, я не маю магчымасці ў даным выпадку даць вам больш таго, што абяцаў вышэй.

## ГОРНЫ АРОЛ

Упершыню я пазнаёміўся з Леніным у 1903 г. Праўда, гэта знаёмства было не асабістае, а завочнае, у парадку перапіскі. Але яно пакінула ва мне незгладзімае ўражанне, якое не пакідала мяне за ўвесь час маёй работы ў партыі. Я быў тады ў Сібіры ў ссылцы. Знаёмства з рэвалюцыйнай дзейнасцю Леніна з канца 90-х гадоў і асабліва пасля 1901 г., пасля выдання «Іскры», прывяло мяне да пераканання, што мы маем у асобе Леніна чалавека незвычайнага. Ён не быў тады ў маіх вачах простым кіраўніком партыі, ён быў яе фактычным стваральнікам, бо ён адзін разумеў унутраную сутнасць і неадкладныя патрэбы нашай партыі. Калі я параўноўваў яго з астатнімі кіраўнікамі нашай партыі, мне ўвесь час здавалася, што саратнікі Леніна— Плеханаў, Мартаў, Аксельрод і іншыя — стаяць ніжэй Леніна цэлай галавой, што Ленін у параўнанні з імі не проста адзін з кіраўнікоў, а кіраўнік вышэйшага тыпу, горны арол, які не ведае страху ў барацьбе і смела вядзе наперад партыю па нявыведаных шляхах рускага рэвалюцыйнага руху. Гэтае ўражанне так глыбока запала мне ў душу, што я адчуў неабходнасць напісаць аб ім аднаму свайму блізкаму сябру, які быў тады ў эміграцыі, патрабуючы ад яго водзыву. Праз некаторы час, будучы ўжо ў ссылцы ў Сібіры, — гэта было ў канцы 1903 года,—я атрымаў захапляючы адказ ад майго сябра і простае, але глыбока змястоўнае пісьмо Леніна, якога, як аказалася, пазнаёміў мой сябр з маім пісьмом. Пісьмецо Леніна было параўнальна невялікае, але яно давала смелую, бясстрашную крытыку практыкі нашай партыі і надзвычай яснае і сціслае выкладанне ўсяго плана работы партыі на бліжэйшы перыяд. Толькі Ленін умеў пісаць аб самых заблытаных рэчах так проста і ясна, сцісла і смела — калі кожная фраза не гаворыць, а страляе. Гэта простае і смелае пісьмецо яшчэ больш умацавала мяне ў тым, што мы маем у асобе Леніна горнага арла нашай партыі. Не магу сабе дараваць, што гэта пісьмо Леніна, як і многія іншыя пісьмы, па прывычцы старога падпольшчыка, я спаліў.

З гэтага часу пачалося маё знаёмства з Леніным.

## СКРОМНАСЦЬ

Упершыню я сустрэўся з Леніным у снежні 1905 года на канферэнцыі бальшавікоў у Тамерфорсе (у Фінляндыі). Я спадзяваўся ўбачыць горнага арла нашай партыі, вялікага чалавека, вялікага не толькі палітычна, але, калі хочаце, і фізічна, бо Ленін рысаваўся ў маім выабражэнні ў выглядзе велікана, статнага і прадстаўнічага. Якое-ж было маё расчараванне, калі я ўбачыў самага звычайнага чалавека, ніжэй сярэдняга росту, які нічым, літаральна нічым не адрозніваўся ад звычайных смертных...

Прынята, што «вялікі чалавек» звычайна павінен пазніцца на сходы, з тым, каб члены схода з заміраннем сэрца чакалі яго паяўлення, прычым перад паяўленнем вялікага чалавека члены схода папярэджваюць: «тсс... цішэй... ён ідзе». Гэта абраднасць здавалася мне не лішняй, бо яна імпануе,

унушае павагу. Якое-ж было маё расчараванне, калі я даведаўся, што Ленін з'явіўся на сход раней, чым дэлегаты і, забіўшыся недзе ў кутку папрасцецку вядзе гутарку, самую звычайную гутарку з самымі звычайнымі дэлегатамі канферэнцыі. Не скрыю, што гэта паказалася мне тады некаторым парушэннем некаторых неабходных правіл.

Толькі пасля я зразумеў, што гэта прастата і скромнасць Леніна, гэта імкненне застацца непрыкметным або, ва ўсякім разе. не кідацца ў вочы і не падкрэсліваць сваё высокае становішча, — гэта рыса прадстаўляе адзін з самых моцных бакоў Леніна, як новага правадыра новых мас, простых і звычайных мас найглыбейшых «нізоў» чалавецтва.

## СІЛА ЛОГІКІ

Выдатнымі былі дзве прамовы Леніна, якія ён сказаў на гэтай канферэнцыі: аб бягучым моманце і аб аграрным пытанні. Яны, на жаль, не захаваліся. Гэта былі натхнёныя прамовы, прывёўшыя ў бурнае захапленне ўсю канферэнцыю. Незвычайная сіла пераканання, прастата і яснасць аргументацыі, кароткія і ўсім зразумелыя фразы, адсутнасць рысоўкі, адсутнасць галавакружальных жэстаў і эфектных фраз, якія б'юць на ўражанне, — усё гэта выгодна адрознівала прамовы Леніна ад прамоў звычайных «парламенцкіх» аратараў.

Але мяне захапіў тады не гэты бок прамоў Леніна. Мяне захапіла тая непераможная сіла логікі ў прамовах Леніна, якая некалькі суха, але затое грунтоўна авалодвае аўдыторыяй, паступова электрызуе яе і потым бярэ яе ў палон, як кажуць без астачы. Я памятаю, як гаварылі тады многія з дэлегатаў: «Логіка ў прамовах Леніна—гэта нейкія ўсясільныя шчупальцы, якія ахапляюць цябе з усіх бакоў абцугамі і з абдымкаў якіх няма моцы вырвацца: або здавайся, або рашайся на поўны правал».

Я думаю, што гэта асаблівасць у прамовах Леніна з'яўляецца самым моцным бокам яго аратарскага майстэрства.

## БЕЗ ХНЫКАННЯ

Другі раз сустрэў я Леніна ў 1906 годзе на Стакгольмскім з'ездзе нашай партыі. Вядома, што на гэтым з'ездзе бальшэвікі засталіся ў меншасці, пацярпелі паражэнне. Я ўпершыню бачыў тады Леніна ў ролі пераможанага. Ён ні на ёту не быў падобен на тых правадыроў, якія хныкаюць і сумуюць пасля паражэння. Наадварот, паражэнне ператварыла Леніна ў згустак энергіі, які натхняе сваіх прыхільнікаў да новых баёў, да будучай перамогі. Я гавару аб паражэнні Леніна. Але якое гэта было паражэнне? Трэба было паглядзець на праціўнікаў Леніна, пераможцаў на Стакгольмскім з'ездзе—Плеханава, Аксельрода, Мартава і іншых: яны вельмі мала былі падобны на сапраўдных пераможцаў, бо Ленін у сваёй бязлітаснай крытыцы меншавізма не пакінуў на іх, як кажуць, жывога месца. Я памятаю, як мы, дэлегаты-бальшэвікі, збіўшыся ў кучу, глядзелі на Леніна, пытаючыся ў яго парады. У прамовах некаторых дэлегатаў сквазілі стомленасць, сум. Помніцца, як Ленін у адказ на такія прамовы едка працадзіў праз зубы: «Не хныкайце, таварышы, мы напэўна пераможам, бо мы правы». Нянавісць да хныкаючых інтэлігентаў, вера ў свае сілы, вера ў перамогу — вось аб чым гаварыў тады з намі Ленін. Адчувалася, што паражэнне бальшэвікоў з'яўляецца часовым, што бальшэвікі павінны перамагчы ў бліжэйшым будучым.

«Не хныкаць з прычыны паражэння»—гэта тая самая асаблівасць у дзейнасці Леніна, якая памагала яму згуртоўваць вакол сябе адданую да канца і верачую ў свае сілы армію.

## БЕЗ ГАНАРЛІВАСЦІ

На наступным з'ездзе, у 1907 годзе, у Лондане, бальшэвікі аказаліся пераможцамі. Я ўпершыню бачыў тады Леніна ў ролі пераможцы. Звычайна перамога кружыць галаву некаторым правадырам, робіць іх заносліваымі і ганарлівымі. Часцей за ўсё ў такіх выпадках пачынаюць святкаваць перамогу, пачываць на лаўрах. Але Ленін ні на ёту не быў падобен на таких

правадыроў. Наадварот, імeнна пасля перамогі станавіўся ён асабліва пільным і насцярожаным. Помніцца, як Ленін настойліва ўнушаў тады дэлегатам: «першая справа—не захапляцца перамогай і не кічыцца; другая справа—замацаваць за сабой перамогу; трэцяя—дабіць праціўніка, бо ён толькі пабіт, але далёка яшчэ не дабіт». Ён едка высмейваў тых дэлегатаў, якія лёгкадумна запэўнялі, што «ад гэтага часу з меншавікамі пакончана». Яму нятрудна было даказаць, што меншавікі ўсё яшчэ маюць карэнні ў рабочым руху, што з імі трэба змагацца ўмеючы, усяляк унікаючы пераацэнкі сваіх сіл і, асабліва, недаацэнкі сіл праціўніка.

«Не кічыцца перамогай»—гэта тая самая асаблівасць у характары Леніна, якая памагла яму цвяроза ўзважваць сілы праціўніка і страхаваць партыю ад магчымых нечаканасцей.

## ПРЫНЦЫПОВАСЦЬ

Правадыры партыі не могуць не даражыць думкай большасці сваёй партыі. Большасць — гэта сіла, з якой не можа не лічыцца правадыр. Ленін гэта разумеў не горш, чым усякі іншы кіраўнік партыі. Але Ленін ніколі не станавіўся палоннікам большасці, асабліва, калі гэта большасць не мела пад сабой прынцыповай асновы. Бывалі моманты ў гісторыі нашай партыі, калі думка большасці або мінутныя інтарэсы партыі прыходзілі ў канфлікт з карэннымі інтарэсамі пралетарыята. У такіх выпадках Ленін, не задумваючыся, рашуча станавіўся на бок прынцыповасці супроць большасці партыі. Больш таго, ён не баяўся выступаць у такіх выпадках літаральна адзін супроць усіх, разлічваючы на тое, — як ён часта гаварыў аб гэтым, — што: «прынцыповая палітыка ёсць адзіна правільная палітыка».

Асабліва характэрны ў гэтых адносінах два наступныя факты.

**Першы факт.** Перыяд 1909—1911 гг., калі партыя, разбітая контррэвалюцыяй, перажывала поўнае разлажэнне. Гэта быў перыяд бязвер'я ў партыю, перыяд павальнага бегства з партыі не толькі інтэлігентаў, але часткова і рабочых, перыяд адмаўлення падполля, перыяд ліквідатарства і развалу. Не толькі меншавікі, але і бальшавікі прадстаўлялі тады цэлы рад фракцый і плыней, большай часткай адарваных ад рабочага руху. Вядома, што ў гэты іменна перыяд узнікла ідэя поўнай ліквідацыі падполля і арганізацыі рабочых ў легальную, ліберальную сталыпінскую партыю. Ленін быў тады адзіным, які не паддаўся агульнаму паветрыю і высока трымаў сцяг партыйнасці, збіраючы разрозненыя і разбітыя сілы партыі са здзіўляючай цярплівасцю і з нябывалым упорствам, ваюючы супроць усіх і ўсякіх антыпартыйных плыней унутры рабочага руху, адстойваючы партыйнасць з небывалай мужнасцю і з нябачанай настойлівасцю.

Вядома, што ў гэтай спрэчцы за партыйнасць Ленін аказаўся потым пераможцам.

**Другі факт.** Перыяд 1914—1917 г., перыяд разгару імперыялісцкай вайны, калі ўсе, або амаль усе, сацыял-дэмакратычныя і сацыялістычныя партыі, паддаўшыся агульнаму патрыятычнаму чаду, адда́лі сябе на ўслужэнне айчыннаму імперыялізму. Гэта быў перыяд, калі II Інтэрнацыянал схіліў свае сцягі перад капіталам, калі перад шавіністычнай хваляй не ўстаялі нават такія людзі, як Плеханаў, Каўцкі, Гэд і іншыя. Ленін быў тады адзіным, або амаль адзіным, які ўзняў рашучую барацьбу супроць сацыял-шавінізма і сацыял-пацыфізма, выкрываў здрадніцтва Гэдаў і Каўцкіх і кляйміў палавінчатасць міжнаўмачных «рэвалюцыянераў». Ленін разумеў, што ён мае за сабой нязначную меншасць, але гэта не мела для яго рашаючага значэння, бо ён ведаў, што адзіна вернай палітыкай, якая мае за сабой будучыню, з'яўляецца палітыка паслядоўнага інтэрнацыяналізма, бо ён ведаў, што прынцыповая палітыка ёсць адзіна правільная палітыка.

Вядома, што і ў гэтай спрэчцы за новы Інтэрнацыянал Ленін аказаўся пераможцам.

«Прынцыповая палітыка ёсць адзіна правільная палітыка» — гэта тая самая формула, пры дапамозе якой Ленін браў прыступам новыя «непрыступныя» пазіцыі, заваёўваючы на бок рэвалюцыйнага марксізма лепшыя элементы пралетарыята.

## ВЕРА Ў МАСЫ

Тэарэтыкі і правадыры партый, якія ведаюць гісторыю народаў, якія праштудзіравалі гісторыю рэвалюцый ад пачатку да канца, часамі хварэюць адной непрыстойнай хваробай. Хвароба гэтая называецца боязню мас, нявер'ем у творчыя здольнасці мас. На гэтай глебе ўзнікае часамі нейкі арыстакратызм правадыроў у адносінах да мас, не спакушаных у гісторыі рэвалюцый, але закліканых ламаць старое і будаваць новае. Боязнь, што стыхія можа разбушавацца, што масы могуць «паламаць шмат лішняга», жаданне разыграць ролю мамкі, якая стараецца вучыць масы на кніжках, але не жадае вучыцца ў мас, — такая аснова гэтага роду арыстакратызма.

Ленін прадстаўляў поўную процілегласць такім правадырам. Я не ведаю другога рэвалюцыянера, які так глыбока верыў-бы ў творчыя сілы пралетарыята і ў рэвалюцыйную мэтазгоднасць яго класавага інстынкту, як Ленін. Я не ведаю другога рэвалюцыянера, які ўмеў-бы так бязлітасна бічаваць самадавольных крытыкаў «хаоса рэвалюцыі» і «вакханаліі самачынных дзеянняў мас», як Ленін. Помніцца, як у часе адной гутаркі, у адказ на заўвагу аднаго з таварышоў, што «пасля рэвалюцыі павінен устанавіцца нармальны парадак», Ленін саркастычна заўважыў: «Бяда, калі людзі, жадаючыя быць рэвалюцыянерамі, забываюць, што найбольш нармальным парадкам у гісторыі з'яўляецца парадак рэвалюцыі».

Адсюль пагардлівыя адносіны Леніна да ўсіх тых, якія стараліся звысоку глядзець на масы і вучыць іх па кніжках. Адсюль нястомная прапаведзь Леніна: вучыцца ў мас, асмысліць іх дзеянні, старанна вывучаць практычны вопыт барацьбы мас.

Вера ў творчыя сілы мас — гэта тая самая асаблівасць у дзейнасці Леніна, якая давала яму магчымасць асмысліць стыхію і накіроўваць яе рух у рэчышча пралетарскай рэвалюцыі.

## ГЕНІЙ РЭВОЛЮЦЫІ

Ленін быў народжаны для рэвалюцыі. Ён быў сапраўды геніем рэвалюцыйных ўзрываў і найвялікшым майстрам рэвалюцыйнага кіраўніцтва. Ніколі ён не адчуваў сябе так свабодна і радасна, як у эпоху рэвалюцыйных патрасенняў. Гэтым я зусім не хачу сказаць, што Ленін аднолькава адобрываў усякае рэвалюцыйнае патрасенне або што ён заўсёды і пры ўсякіх умовах стаяў за рэвалюцыйныя ўзрывы. Ніколькі. Гэтым я хачу толькі сказаць, што ніколі геніяльная празорлівасць Леніна не праяўлялася так поўна і выразна, як у часе рэвалюцыйных узрываў. У дні рэвалюцыйных паваротаў ён літаральна расцвітаў, станавіўся яснавідцам, прадугадваў рух класаў і магчымыя зігзагі рэвалюцыі, бачачы іх, як на далоні. Недарма гаворыцца ў нашых партыйных колах, што «Ільіч умее плаваць у хвалях рэвалюцыі, як рыба ў вадзе».

Адсюль «здзіўляючая» **яснасць** тактычных лозунгаў, «галавакружальная» **смеласць** рэвалюцыйных замыслаў Леніна.

Успамінаюцца два асабліва характэрныя факты, якія адзначаюць гэту асаблівасць Леніна.

**Першы факт.** Перыяд перад Кастрычніцкім пераваротам, калі мільёны рабочых, сялян і салдат, падганяемыя крызісам у тылу і на фронце, патрабавалі міру і свабоды; калі генералітэт і буржуазія падрыхтоўвалі ваенную дыктатуру ў інтарэсах «вайны да канца»; калі ўся так званая «грамадская думка», усе так званыя «соцыялістычныя партыі» стаялі супроць большэвікоў, трэтыруючы іх «нямецкімі шпіёнамі»; калі Керэнскі прабаваў загнаць у падполле — і часткова ўжо паспеў загнаць — партыю большэвікоў; калі ўсё яшчэ магутныя дысцыплінаваныя арміі аўстра-германскай кааліцыі стаялі супроць нашых стомленых і разлагаўшыхся армій, а заходне-еўрапейскія «соцыялісты» благапалучна знаходзіліся ў блоку са сваімі ўрадамі ў інтарэсах «вайны да поўнай перамогі»...

Што значыла ўзняць паўстанне ў такі момант? Узняць паўстанне ў такой абстаноўцы — гэта значыць паставіць усё на карту. Але Ленін не баяўся рызыкнуць, бо ён ведаў, бачыў сваім яснавідзячым узрокам, што паўстанне немінуча, што паўстанне пераможа, што паўстанне ў Расіі падрыхтуе канец імперыялісцкай вайны, што паўстанне ў Расіі ўскалыхне змучаныя масы Заха-

да, што паўстанне ў Расіі ператворыць вайну імперыялісцкую ў вайну грамадзянскую, што паўстанне дасць Рэспубліку Советаў, што Рэспубліка Советаў паслужыць аплотам рэволюцыйнага руху ва ўсім свеце.

Вядома, што гэта рэволюцыйнае прадбачанне Леніна збылося ў далейшым з небывалай дакладнасцю.

**Другі факт.** Першыя дні пасля Кастрычніцкай рэволюцыі, калі Совет Народных Камісараў прабаваў прымусіць мяцежнага генерала, галоўнакамандуючага Духоніна, спыніць ваенныя дзеянні і адкрыць перагаворы з немцамі аб перамір'і. Помніцца, як Ленін, Крыленка (будучы галоўнакамандуючы) і я адправіліся ў Галоўны штаб у Піцеры да провада для перагавораў з Духонінным. Мінута была жудасная. Духонін і Стаўка катэгарычна адмовіліся выканаць загад Соўнаркома. Камандны састаў арміі знаходзіўся цалкам у руках Стаўкі. Што датычыць салдат, то невядома было, што скажа 12-мільённая армія, падначаленая так званым армейскім арганізацыям, настроеным супроць Совецкай улады. У самым Піцеры, як вядома, наспявала тады паўстанне юнкераў. Акрамя таго Керэнскі ішоў на Піцер вайной. Помніцца, як пасля некаторай паўзы каля провада твар Леніна засвяціўся нейкім незвычайным святлом. Відаць было, што ён ужо прыняў рашэнне. «Пойдзем на радыёстанцыю, — сказаў Ленін, — яна нам саслужыць карысць: мы знімем у спецыяльным загадзе генерала Духоніна, назначым на яго месца галоўнакамандуючым т. Крыленка і звернемся да салдат праз галаву каманднага састава з заклікам — акружыць генералаў, спыніць ваенныя дзеянні, звязацца з аўстра-германскімі салдатамі і ўзяць справу міру ў свае ўласныя рукі».

Гэта быў «скачок у невядомае». Але Ленін не баяўся гэтага «скачка», наадварот, ён ішоў яму насустрач, бо ён ведаў, што армія хоча міру, і яна заваюе мір, змятаючы на шляху к міру ўсе і ўсякія перашкоды, бо ён ведаў, што такі спосаб устанаўлення міру не пройдзе дарэмна для аўстра-германскіх салдат, што ён развяжа цягу к міру на ўсіх без выключэння франтах.

Вядома, што гэтае рэволюцыйнае прадбачанне Леніна таксама збылося ў далейшым з усёй дакладнасцю.

Геніяльная празорлівасць, здольнасць быстра схватваць і разгадваць унутраны сэнс надыходзячых падзей — гэта тая самая ўласцівасць Леніна, якая дапамагала яму намячаць правільную стратэгію і ясную лінію паводзін на паваротах рэволюцыйнага руху.

# Няхай жыве ленінізм!

У гэтым годзе 21 студзеня ў дванаццаты раз працоўныя нашай радзімы разам з пролетарыямі і прыгнечанымі ўсяго свету схілілі свае баявыя сцягі перад памяццю найвялікшага чалавека сярод усіх вялікіх людзей гісторыі чалавецтва, правадыра, арганізатара і бацькі нашай большэвіцкай партыі — **Владзіміра Ільіча Леніна.**

Мінула 12 год як перастала біцца вогненае сэрца Ільіча, сэрца, якое гарэла кіпучай нянавісцю да капіталістычнага ладу — ладу гнуснай эксплаатацыі і прыгнечання чалавека чалавекам, сэрца, бязжаласнае да ворагаў працоўных і адзыўлівае, чулае да ўсяго новага, светлага і раДаснага, што павінна ўвайсці і ўвайшло ўжо ў жыццё ўсіх працоўных нашай краіны.

Абарвалася жыццё чалавека, які прадоўжыў і развіў бяссмертнае вучэнне Маркса і Энгельса, высока ўзняў сцяг рэволюцыйнага марксізма, сцяг класавай барацьбы, сцяг дыктатуры пролетарыяту, сцяг соцыялізма.

Калі 12 год таму назад перастала біцца гэта вогненае сэрца, па ўсёй краіне пракацілася хваля смутку і жалю, і гэта хваля перавваліла праз ўсе рубяжы і межы, ахапіўшы ўсіх працоўных і прыгнечаных земнага шара, для каго імя Леніна было сімвалам пролетарскай салідарнасці, зброяй і сцягам у барацьбе, факелам, асвятляючым шлях гэтай барацьбы.

Але не пахіснуліся, ні на адну мінуту не пахіснуліся рады баявых калон рэволюцыйнага пролетарыята. Не пахіснуліся, бо Ленін пакінуў арганізаваную, выхаваную ім, загартаваную у баях комуністычную партыю, бо ленінскі сцяг барацьбы нясе найвялікшы яго саратнік, лепшы яго вучань, геніяльнейшы зодчы новага соцыялістычнага ладу таварыш **Сталін.**

Пад сцягам Леніна таварыш Сталін павёў нашу партыю на завяршэнне той вялікай справы, за якую змагаўся, за якую аддаў усё сваё жыццё таварыш Ленін.

Пад сцягам Леніна наша партыя, кіруемая таварышам Сталіным, вывела нашу краіну на шырокі шлях соцыялістычнага будаўніцтва, ператварыўшы яе ў краіну перадавую, індустрыяльную, соцыялістычную.

«Гісторыя старой Расіі заключалася, між іншым, у тым, што яе бесперапынна білі за адсталасць. Білі мангольскія ханы. Білі турэцкія бэкі. Білі шведскія феадалы. Білі польска-літоўскія паны. Білі англа-французскія капіталісты. Білі японскія бароны. Білі ўсе — за адсталасць. Білі за адсталасць ваенную, за адсталасць культурную, за адсталасць дзяржаўную, за адсталасць прамысловую, за адсталасць сельскагаспадарчую. Білі таму, што гэта было даходна і сходзіла без пакарання... Такі ўжо закон эксплаататараў — біць адсталых і слабых. Воўчы закон капіталізма. Ты адстаў, ты слабы — значыць ты не праў, стала быць, цябе можна біць і заняволіваць». **(Сталін).**

Гэту адсталую краіну трэба было вывесці на шлях шырокага развіцця, зрабіўшы яе перадавою індустрыяльнаю краінай, бо «мы не хочам аказацца бітымі. Не, не хочам!». **(Сталін).**

Ідучы пад сцягам Леніна, наша партыя вырашыла ленінскае пытанне «Хто каго?» канчаткова і беспаваротна ў карысць соцыялізма, ператварыўшы Совецкі Саюз у непрыступную крэпасць соцыялізма, разбіўшы апошнія астаткі эксплаататарскіх класаў, павярнуўшы вёску на шлях соцыялістычнага развіцця.

Над гробам Леніна з трыбуны II з'езда советаў Саюза ССР таварыш Сталін даў большэвіцкую клятву перад усімі працоўнымі ўсяго свету выканаць заветы Леніна і высока трымаць вялікі сцяг ленінізма.

Цяпер уся наша партыя, увесь рабочы клас нашай радзімы можа з гонарам заявіць, што клятва таварыша Сталіна нашай партыяй выканана.

Мы высока ўзнялі і захавалі ў чыстаце вялікае званне члена партыі.

Ніколі яшчэ наша партыя не была так моцна, так адзіна і маналітна як зараз.

Мы ўмацавалі і ўмацоўваем дыктатуру пролетарыята, бо толькі праз узмацненне дыктатуры пролетарыята ляжыць

шлях да пабудовы комуністычнага грамадства. Толькі моцная дыктатура пролетарыята забяспечыла нашы поспехі ў пабудове соцыялізма.

Мы ўмацавалі саюз рабочых і сялян, павярнуўшы вёску на шлях соцыялістычнага будаўніцтва, забяспечыўшы новую калгасную соцыялістычную вёску сотнямі тысяч трактараў, аб якіх марыў у першыя гады рэволюцыі таварыш Ленін.

Мы ўмацавалі Саюз Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік, у брацкай сям'і народаў якога расцвіла наша Совецкая Беларусь, як і дзесяткі іншых адсталых і прыгнечаных у мінулым нацыянальных акраін, стаўшы перадавой, ордэнаноснай рэспублікай.

Мы высока пранеслі і панясем наперад сцяг вернасці прынцыпам Комуністычнага Інтэрнацыянала, сцяг пролетарскага інтэрнацыяналізма.

Паспяховае ажыццяўленне клятвы таварыша Сталіна не было-б магчымым без жорсткай барацьбы з усімі ворагамі соцыялізма, ворагамі партыі, ворагамі ленінізма.

Мы адбілі і разбілі неаднаразовыя шалёныя атакі на генеральную лінію партыі з боку контррэволюцыйнага трацкізма і яго гнусных каменеўска-зіноўеўскіх падонкаў, якія сталі на шлях прымянення подлых фашысцкіх метадаў у барацьбе з партыяй.

Нам прышлося разбіць неаднаразовыя атакі правых апартуністаў, нацыяналістычнай контррэволюцыі.

І партыя была бязлітасна ў гэтай барацьбе, бо справа ішла аб лёсе рэволюцыі, аб лёсе соцыялізма, аб ажыццяўленні вялікага вучэння Леніна і Сталіна.

У гэтай барацьбе мы перамаглі толькі таму, што высока неслі сцяг Леніна, што намі кіраваў і кіруе вялікі Сталін.

Поспехі нашы велізарны. Мы перамаглі, перамагла справа соцыялізма. Але перад намі стаяць яшчэ вялікія і складаныя задачы. Усе гэтыя задачы па пабудове комуністычнага грамадства будуць ажыццёўлены з не меншым поспехам, бо мы ўзброены вялікім сцягам Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна, бо намі кіруе вялікі зодчы соцыялізма таварыш Сталін.

Наша краіна ўступіла ў стаханаўскі 1936 год. Стаханаўскі рух, які стаў рухам найшырэйшых мас — ёсць ярчэйшае ажыццяўленне вучэння Леніна аб узняцці прадукцыйнасці працы, бо ён «у апошнім рахунку, самае важнае, самае галоўнае для перамогі новага грамадскага ладу... Комунізм — ёсць вышэйшая супроць капіталістычнай прадукцыйнасць працы добраахвотных, свядомых, аб'яднаных, выкарыстоўваючых перадавую тэхніку, рабочых». (**Ленін**).

Стаханаўскі рух стварыў умовы, неабходныя для таго, «каб пачаць пераход ад соцыялізма да комунізма». (**Сталін**).

У гэтым выключнае значэнне стаханаўскага руху, і наша задача — надалей расшыраць стаханаўскі рух, расшыраць яго да такіх размераў, якіх патрабуе сучасны этап соцыялістычнага будаўніцтва.

План бягучага года — мінімальнае заданне. Наша задача па-ленінску, па-сталінску змагацца за перавыкананне гэтага плана, за самую высокую ў свеце прадукцыйнасць працы, за багацце прадуктаў, за яшчэ больш радаснае і заможнае жыццё.

Ленін вучыў нас нястомна ўмацоўваць нашу партыю, высока трымаць вялікае званне члена партыі. Надыходзячы абмен партыйных білетаў і аднаўленне прыёму ў партыю абавязвае ўсіх нас, работнікаў бальшэвіцкага друку, выключную ўвагу прыкаваць да гэтай справы, каб ні адзін вораг партыі не змог пранікнуць у нашы рады, каб зачыніць перад ім дзверы ў партыю, не пакідаючы ніякіх шчылін для яго.

Нам патрэбна шырэй асвятляць пытанні партыйнага будаўніцтва, пытанні ўнутрыпартыйнай работы і авангарднай ролі комуністаў у стаханаўскім руху.

Па-ленінску, па-сталінску будзем змагацца за далейшае ўмацаванне нашай партыі, за падняцце значэння і вялікага звання члена партыі—той партыі, якую стварыў Ленін, якую вядзе таварыш Сталін.

Падводзячы вынікі пройдзенага за гэтыя 12 год вялікага шляху, нельга не спыніцца на задачах работнікаў бальшэвіцкага друку, якім партыя даверыла сваю самую вострую, самую моцную зброю.

Каб быць на ўзроўні задач, якія ставіць перад намі партыя, нам трэба лепш працаваць, лепш звязвацца з

шырокімі масамі, вучыцца ў мас, дапамагаючы вучыцца ім. Справа Леніна—Сталіна вышэй за ўсё. Трэба цвёрда памятаць, што ленінска-сталінская прынцыповасць ёсць тыя якасці, без якіх не можа працаваць ні адзін работнік большэвіцкага друку.

Вялікі сцяг Леніна—Сталіна забяспечыў нам рашаючыя поспехі на ўсіх участках соцыялістычнага будаўніцтва.

З гэтым сцягам мы пойдзем наперад да новых перамог, да пабудовы комуністычнага грамадства, таго грамадства, аб якім марыла вякамі прыгнечанае чалавецтва, і гэты сцяг прывядзе нас да перамогі.

Няхай жыве ленінізм!

# Неапублікаваныя дакументы В. І. Леніна

## Аб журнале „Свобода"

(Восень 1901, Мюнхен).

Журнальчык «Свобода» зусім дрэнны. Аўтар яго, — журнал робіць іменна такое ўражанне, як быццам ён увесь ад пачатку да канца быў пісан адной асобай, — прэтэндуе на папулярнае пісанне «для рабочых». Але гэта не папулярнасць, а дрэннага тону папулярнічанне. Славечка няма простага, усё з крыўляннем... Без выкрутасаў, без «народных» параўнанняў і «народных» слоўцаў — накшталт «іхні», аўтар не скажа ніводнай фразы. І гэтай уродлівай мовай разжоўваюцца без новых даных, без новых прыкладаў, без новай апрацоўкі збітыя соцыялістычныя мыслі, знарок вульгарызуемыя.

Папулярызацыя, сказалі-б мы аўтару, вельмі далёка ад вульгарызацыі, ад папулярнічання. Папулярны пісьменнік падводзіць чытача да глыбокай мыслі, да глыбокага вучэння, выходзячы з самых простых і агульнавядомых даных, указваючы пры дапамозе нескладаных разважанняў ці ўдачна выбраных прыкладаў галоўныя **вывады** з гэтых даных, наштурхоўваючы думаючага чытача на далейшыя і далейшыя пытанні. Папулярны пісьменнік не дапускае не думаючага, не жадаючага ці не ўмеючага думаць чытача, — наадварот, ён дапускае ў няразвітым чытачу сур'ёзны намер працаваць галавой і **дапамагае** яму рабіць гэту сур'ёзную і трудную работу, **вядзе** яго, дапамагаючы яму рабіць першыя крокі і **вучачы** ісці далей самастойна. Вульгарны пісьменнік дапускае чытача не думаючага і думаць не здольнага, ён не наштурхоўвае яго на першыя пачаткі сур'ёзнай навукі, а ва ўродліва-спрошчаным, пасоленым жартачкамі і прыказачкамі выглядзе, падносіць яму «гатовымі» **ўсе** вывады вядомага вучэння, так што чытачу нават і жаваць не прыходзіцца, а толькі праглынуць гэту кашыцу*).

*) Тут рукапіс абрываецца. — **Рэд.**

***

**Заметка аб журнале «Свобода» напісана ўвосень 1901 года, у той час, калі Ленін рэдагаваў «Искру» — Ленін будаваў партыю ў барацьбе з дробнабуржуазным народніцтвам (эсэрамі), у барацьбе з рознымі апартуністычнымі групоўкамі, прэтэндаваўшымі на кіраўніцтва рабочым рухам. К ліку такіх груп адносілася і група «Свобода», адзіным публіцыстам якой быў Надзеждзін-Зеленскі (памёр у 1905 г.). Заметка аб журнале «Свобода», якая засталася незакончанай, як відаць, прадназначалася для «Искры».**

**АРТЫКУЛЫ**

# Задачы выключнай палітычнай важнасці

Л. НІХАМКІН.

Больш шасці месяцаў працягвалася праверка партыйных дакументаў. Гэта была работа выключнай палітычнай важнасці, работа вялікая, крапатлівая і надзвычай адказная. Напружана працаваў партыйны апарат, актыў, уся партыя. Глыбока і ўсебакова вывучаўся жыццёвы шлях кожнага комуніста, вывучалася работа кожнай партыйнай арганізацыі. Выкрываліся і выганяліся з партыі класава-чужыя, варожыя партыі людзі — былыя меншавікі, трацкісты, падонкі зіноўеўска-каменеўскай групы, бундаўцы, розныя жулікі і аферысты, якія ашуканчым шляхам пралезлі ў рады партыі. Выяўляліся новыя большэвіцкія кадры — адданыя партыі людзі і высоўваліся на адказную партыйную, совецкую і інш. работы.

Снежаньскі пленум **ЦК ВКП(б)** падвёў вынікі гэтай грандыёзнейшай работы па праверцы партыйных дакументаў, праведзенай па ініцыятыве таварыша **СТАЛІНА**. Рэзалюцыя па гэтаму пытанню, прынятая па дакладу тав. **Ежова**, з'яўляецца выключна важным палітычным дакументам. У ёй паказана велізарнейшая работа, праведзеная партыяй, вызначаны важнейшыя мерапрыемствы, паказаны шляхі, па якіх партыя пойдзе, каб замацаваць рэзультаты праверкі партыйных дакументаў, каб яшчэ больш умацаваць рады партыі, узняць на небывалую вышыню высокае званне члена большэвіцкай партыі.

Увесь наш друк абавязан давесці гэта рашэнне пленума літаральна да кожнага комуніста, кандыдата партыі, спачуваючага, умела растлумачыць глыбокі палітычны змест і практычнае значэнне рашэнняў пленума для далейшай барацьбы за пабудову бяскласавага соцыялістычнага грамадства. І не толькі растлумачыць, а штодзенна ўзнімаць, мабілізоўваць комуністаў, партыйныя арганізацыі на выкананне гэтых рашэнняў. Трэба дапамагчы комуністам перш за ўсё ўсвоіць палітычныя ўрокі, вынікаючыя з праверкі.

А галоўны ўрок заключаецца ў тым, **«што члены партыі і партыйныя арганізацыі ўсё яшчэ дрэнна ўсвоілі неаднаразовае ўказанне ЦК ВКП(б) аб неабходнасці ўсямернага павышэння большэвіцкай пільнасці і дысцыпліны сярод членаў партыі».**

Зусім ясна, што толькі стратай класавай пільнасці ў многіх партыйных арганізацыях тлумачыцца той факт, што ў партыю маглі пралезці ворагі партыі, рабочага класа.

Статут партыі, які стварае моцную перашкоду пранікненню ў партыю класава-варожых, чужых партыі людзей, у многіх арганізацыях не выконваўся. І характэрна, што імення тыя арганізацыі, дзе пры прыёме ў партыю абыходзілі статут партыі, аказаліся найбольш засмечанымі.

Усё гэта ёсць рэзультат неразумення многімі комуністамі і кіраўнікамі партыйных арганізацый, работнікамі апарата асаблівасцей класавай барацьбы на сучасным этапе нашага соцыялістычнага будаўніцтва.

Поспехі нашай краіны сапраўды грандыёзныя. Совецкі Саюз пад кіраўніцтвам большэвіцкай партыі, на чале з геніяльнейшым чалавекам эпохі таварышам Сталіным атрымлівае небывалыя ў гісторыі перамогі. Мы шпарка ідзем наперад па шляху пабудовы бяскласавага соцыя-

лістычнага грамадства. Гэтыя перамогі многім ускружваюць галаву. Сям-там забылі словы таварыша Сталіна, які з выключнай празорлівасцю папярэджваў партыю на студзеньскім пленуме ЦК ВКП(б) у 1933 годзе:

**«Трэба мець на ўвазе, — гаварыў таварыш СТАЛІН, — што рост магутнасці совецкай дзяржавы будзе ўзмацняць супраціўленне апошніх астаткаў паміраючых класаў. Іменна таму, што яны паміраюць і дажываюць апошнія дні, яны будуць пераходзіць ад адных форм наскокаў да другіх больш рэзкіх форм наскокаў, апелюючы да адсталых слаёў насельніцтва і мабілізуючы іх супроць совецкай улады. Няма такой пакасці і паклёпу, якіх-бы гэтыя былыя людзі не ўзвялі на совецкую ўладу і вакол якіх не прабавалі-б мабілізаваць адсталыя элементы. На гэтай глебе могуць ажыць і заварушыцца разбітыя групы старых контррэволюцыйных партый — эсэраў, меншавікоў, буржуазных нацыяналістаў цэнтра і акраін, могуць ажыць і заварушыцца асколкі контррэволюцыйных апазіцыйных элементаў з трацкістаў і правых ухілістаў. Гэта, вядома, не страшна, але ўсё гэта трэба мець на ўвазе, калі мы хочам пакончыць з гэтымі элементамі быстра і без асаблівых афяр.**

**Вось чаму рэволюцыйная пільнасць з'яўляецца той самай якасцю, якая асабліва неабходна зараз большэвікам».**

Вынікі праверкі паказваюць, што ва многіх і многіх партыйных арганізацыях забылі гэтыя геніяльнейшыя словы таварыша Сталіна. А гэта прывяло да недапушчальнага ратазейства, да апартуністычнага благадушша, да глупай даверлівасці і абывацельскіх разважанняў аб патуханні класавай барацьбы. Гэтыя неўласцівыя большэвізму з'явы і былі выкарыстаны класавым ворагам для таго, каб пранікнуць у рады партыі і папрабаваць знутры ўзарваць яе.

Значыць, першым вынікам праверкі павінна быць усямернае павышэнне большэвіцкай пільнасці, рашучая барацьба з малейшымі праяўленнямі апартуністычнай благадушнасці і ратазейства.

Тут справа ідзе не аб тым, каб заўсёды і ўсюды паўтараць словы аб класавай пільнасці. Каб умець распазнаваць ворага, трэба яго ведаць, трэба вывучыць яго метады барацьбы супроць партыі. Трэба вывучыць, як партыя, як **Ленін, Сталін** на ўсіх этапах развіцця нашай партыі і рэволюцыйнага руху выкрывалі і змагаліся з усімі і ўсякімі дробнабуржуазнымі контррэволюцыйнымі партыямі, антыленінскімі плынямі і групоўкамі. Гутарка ідзе аб глыбокім вывучэнні гісторыі нашай партыі.

Нам неабходна дабіцца таго, каб усе комуністы добра ведалі гісторыю партыі, бо толькі такім шляхам можна трымаць на высокім узроўні большэвіцкую пільнасць членаў і кандыдатаў партыі.

Роля газет тут заключаецца ў тым, каб сістэматычна ставіць на сваіх старонках пытанні вывучэння гісторыі большэвіцкай партыі, дапамагчы партыйным арганізацыям найлепш арганізаваць вучобу.

Пленум ЦК ВКП(б) пастанавіў правесці абмен партыйных білетаў, кандыдацкіх картак і ўчотных дакументаў. Гэта з'явіцца важнейшым мерапрыемствам, якое павінна замацаваць вынікі праверкі. Гэта работа выключнай важнасці, не менш, а больш адказная, чым праверка партыйных дакументаў. Трэба забяспечыць, каб ні адзін партыйны білет ці кандыдацкая картка не папалі ў рукі класавага ворага, ці ў рукі пасіўных, адарваных ад партыі людзей.

Пленум падкрэсліў, што калі пры праверцы партыйных дакументаў асаблівая ўвага партыйных арганізацый была звернута на тое, каб выкрыць ашуканчым шляхам пралезшых у рады партыі ворагаў, усякага роду прахадзімцаў і жулікаў, пры абмене партыйных дакументаў галоўная ўвага павінна быць звернута на тое, каб вызваліцца ад пасіўных людзей, ад усяго баласту, выпадкова папаўшых у рады ВКП(б).

Такім чынам партыя, ачысціўшы свае рады ад баласту, пасіўных людзей, не годных высокага звання члена партыі, яшчэ больш узніме сваю боездольнасць, яшчэ больш умацуе свае рады.

У выніку праведзенай праверкі мы маем значнае ажыўленне ўнутрыпартыйнай работы. Узнялася цяга комуністаў да вучобы, лепш сталі падрыхтоўвацца партыйныя дні. Яны сталі праходзіць пры значна ўзросшай актыўнасці комуністаў. Узнялася палітычная пільнасць. Пленум абавязаў усе партыйныя арганізацыі замацаваць і яшчэ больш развіць зрухі ў партыйнай рабоце. І тут газеты павінны аказаць дзейсную дапамогу партыйным арганізацыям.

Між тым, раённыя газеты далёка не выконваюць гэту сваю ролю. Мы, напрыклад, прагледзелі камплекты **асіпавіцкай** і **пухавіцкай** райгазет за апошнія тры месяцы 1935 года. Якраз у гэтыя месяцы паказаныя партыйныя арганізацыі праводзілі праверку партыйных дакументаў.

Калі меркаваць па раённых газетах, то нічога ў партыйных арганізацыях не адбывалася. Газеты абышлі моўчкі праверку, яны не бачаць і тых зрухаў, якія адбыліся ў партыйных арганізацыях. А работы-ж тут непачаты край. Трэба паказаць, як пярвічныя партыйныя арганізацыі замацоўваюць вынікі праверкі ў галіне захавання партыйнай гаспадаркі. Трэба паказаць лепшы вопыт пастаноўкі партыйна-масавай работы, ролю комуністаў у разгортванні стаханаўскага руху, ход партыйнай вучобы і шмат іншых пытанняў партыйнай работы.

І калі газеты ігнаруюць гэтыя важнейшыя пытанні ўнутрыпартыйнага жыцця, то гэта прамы рэзультат неразумення велізарнейшага палітычнага значэння праверкі і тых задач, якія пастаўлены цяпер перад усёй партыяй.

На вялікі жаль, такіх газет, на старонках якіх некалькі месяцаў няма ніводнага радка аб унутрыпартыйнай і партыйна-масавай рабоце, у нас вельмі многа.

З першага чэрвеня 1936 года згодна рашэння пленума ЦК будзе адноўлен прыём у партыю і перавод з кандыдатаў у члены партыі. Гэта стала магчымым пасля праверкі ў рэзультаце таго, што пераважная большасць арганізацый у значнай меры перамаглі арганізацыйную распушчанасць, навялі парадак у вучоце комуністаў і хаванні партыйных дакументаў.

Але пленум папярэдзіў усе партыйныя арганізацыі супроць паўтарэння ранейшых памылак, калі ў партыю прымалі не індывідуальна, як гэтага патрабуе статут партыі, а групамі, калі прымаемыя не вывучаліся глыбока.

Пры гэтым права прыёму ў партыю прадастаўлена не кожнай партыйнай арганізацыі. Пленум рашыў не дазваляць прыём у члены партыі і кандыдаты для асобных партыйных арганізацый, якія па свайму становішчу і ўзроўню іх работы недастаткова падрыхтаваны, каб забяспечыць большэвіцкае выхаванне і скарыстанне новапрынятых.

Праверка партыйных дакументаў закончана. Праведзена велізарная работа. Наша партыя стала яшчэ больш моцнай, яшчэ больш згуртаванай вакол ленінскага ЦК, любімага правадыра і настаўніка партыі таварыша **Сталіна**.

Але наперадзе грандыёзныя задачы. Нам трэба ўзняць большэвіцкую пільнасць, ідэйную ўзброенасць комуністаў. Трэба ўзняць вялікае званне члена партыі на недасяжную вышыню. Трэба забяспечыць такое строгае захаванне статута партыі, такі парадак у нашым уласным партыйным доме, пры якім канчаткова была-б выключана магчымасць пранікнення ў яе рады класава-чужых, варожых партыі людзей. Дзверы партыі для такіх людзей павінны быць моцна зачынены.

Дапамагчы партыйнай арганізацыі ў гэтай важнейшай справе — надзвычай сур'ёзная і адказная задача кожнай раённай і шматтыражнай газеты.

# Поспех барацьбы за ўраджай вырашаюць кадры

★ ★ ★ С. СЕМАШКО. ★ ★ ★

На выпуску акадэмікаў Чырвонай арміі 4 мая 1935 года **таварыш СТАЛІН** у сваёй прамове сказаў, што «**зжыўшы перыяд голаду ў галіне тэхнікі, мы ўступілі ў новы перыяд, у перыяд, я сказаў-бы, голаду ў галіне людзей, у галіне кадраў, у галіне работнікаў, умеючых асядлаць тэхніку і рушыць яе наперад... Будуць у нас добрыя і шматлікія кадры ў прамысловасці, у сельскай гаспадарцы, на транспарце, у арміі, — наша краіна будзе непераможна**».

З таго часу прайшло ўсяго каля дзевяці месяцаў. А як шпарка мы рушыліся наперад у галіне кадраў! Вазьміце любую галіну нашай вытворчасці, любы ўчастак нашага соцыялістычнага будаўніцтва,—колькі мы маем ужо выдатнейшых людзей, якія поўнасцю аўладалі тэхнікай і з поспехам рушаць яе наперад. Аб гэтым сведчыць шырока разгарнуўшыйся па ўсёй нашай краіне стаханаўскі рух. Сотні лепшых барацьбітоў соцыялістычнай будоўлі атрымалі ад урада вышэйшую ўзнагароду — ордэны Леніна.

Але ці значыць гэта, што барацьба за вырошчванне кадраў можа быць паслаблена? Не, ні ў якім разе. Мы павінны нястомна змагацца за ажыццяўленне лозунга правадыра аб кадрах. Асабліва гэта адносіцца да нашай сельскай гаспадаркі.

На нарадзе перадавых камбайнераў і камбайнерак 1 снежня 1935 года таварыш Сталін высунуў лозунг: «**Давесці штогадовую вытворчасць зерня ў бліжэйшым будучым да 7—8 мільярдаў пудоў**». Пералічваючы ўсе спрыяючыя ўмовы, якія мы маем для атрымання такой колькасці хлеба, таварыш Сталін гаворыць, што для гэтага патрэбна, «**каб у калгасаў былі людзі, кадры, якія ўмеюць абыходзіцца з тэхнікай, асвоілі гэту тэхніку і навучыліся асядлаць яе**».

Значыць, поспех барацьбы за высокі ўраджай, за штогодную вытворчасць хлеба ў 7—8 мільярдаў пудоў вырашаюць людзі, кадры. Значыць, рыхтуючыся да веснавой сяўбы, выключная ўвага павінна быць аддана падрыхтоўцы сельскагаспадарчых кадраў.

Зусім зразумела, што раённыя і сугасныя палітаддзельскія газеты могуць і павінны адыграць у гэтай справе велізарнейшую ролю. Аднак, на вялікі жаль, многія газеты гэтай важнейшай справай зусім не займаюцца.

Вазьміце хоць-бы бягомльскую раённую газету «**Калгасны змагар**». Дзіву даешся праглядаючы нумары гэтай газеты: як гэта магло здарыцца, што газета жыве яшчэ мінулагоднімі настроямі, мінулагоднай тэматыкай?!

Вось, напрыклад, нумар газеты «Калгасны змагар» за 12 студзеня 1935 года і нумар за 11 студзеня 1936 года. Паміж імі ніякай розніцы. Такія-ж самыя заметкі сёлета на старонках газеты, што і ў мінулым годзе.

Дарэмна вы будзеце шукаць у бягомльскай газеце паказу людзей, паказу барацьбітоў за высокі ўраджай, за высокую прадукцыйнасць калгаснай вытворчасці. А прыклады ўзорнай барацьбы за ўраджай ёсць у Бягомльскім раёне. Напрыклад, калгас «Чырвоны садавод», Іванскага сельсовета, ужо ў 1935 годзе дабіўся ўраджаю ячменю 20 цэнтнераў з гектара, а раённая газета паведаміла аб гэтым толькі сухой невялічкай заметкай. Газета не паклапацілася паказаць на сваіх старонках, якім чынам калгас «Чырвоны садавод» дабіўся павышэння ўраджайнасці ячменю, не паказала асобных майстроў высокага ўраджаю.

У Бягомльскім раёне вельмі дрэнна ідзе падрыхтоўка сельскагаспадарчых кадраў. Нават сама газета канстатуе ў агульным артыкуле аб падрыхтоўцы да веснавой сяўбы (нумар за 4 студзеня), што:

**«зусім дрэнна абстаіць справа з падрыхтоўкай новых кадраў. Патрэбна падрыхтаваць 70 трактарыстаў, а на сёнешні дзень навучаецца на курсах толькі 40 чалавек, чым ставіцца пагроза зрыву падрыхтоўкі новых кадраў».**

Вось і ўсё, што можна знайсці ў газеце «Калгасны змагар» пра кадры. Газета не палічыла патрэбным выкрыць і паказаць на сваіх старонках канкрэтных вінаватых у зрыве падрыхтоўкі кадраў. Ды яно і зразумела чаму. Газета лічыць, што паспяховае правядзенне веснавой сяўбы, высокі ўраджай будуць залежаць толькі ад таго, як калгас

**«падрыхтуе інвентар, прывядзе ў добры выгляд конскае пагалоўе, адсартуе на трыер насенне і здабудзе высокаякаснае сартавое і забяспечыць угнаеннем усю плошчу пасеву».**

Усё гэта правільна. Але-ж асноўнае — гэта кадры, людзі, аўладаўшыя тэхнікай калгаснай вытворчасці.

Нельга так змагацца за выкананне лозунгаў партыі, як змагаецца бягомльская раённая газета. Пытанне аб вырошчванні людзей, кадраў не павінна зыходзіць са старонак раённых і соўгасных газет.

Першае, за што зараз трэба ўзяцца — гэта за шырокае асвятленне ў газеце ходу падрыхтоўкі сельскагаспадарчых кадраў. Трэба не толькі пісаць аб тым, што адкрываюцца курсы трактарыстаў або брыгадзіраў. Гэтага мала. Галоўную ўвагу трэба аддаць на падбор складу курсаў. На курсы павінны быць пасланы лепшыя ўдарнікі, стаханаўцы калгаснай вытворчасці.

А вазьміце такое пытанне, як работа самых курсаў па падрыхтоўцы кадраў. Многія газеты робяць так, што зафіксуюць толькі на сваіх старонках аб тым, што распачаліся курсы і да канца іх работы не даюць ні слова. Ясна, што гэта ні што іншае, як фармальнае асвятленне пытання аб кадрах.

Работнікі рэдакцый павінны заглядаць на гэтыя курсы, даваць на старонках газеты аб тым, як праходзіць вучоба курсантаў, якія ёсць недахопы ў вучобе, у метадзе выкладання, паказваць лепшых ударнікаў вучобы. Гэтым газета можа вельмі дапамагчы як арганізацыям, якія праводзяць курсы, так і самім курсантам.

Але гэтым нельга абмежавацца. Падрыхтоўка кадраў ідзе не толькі ў раённых цэнтрах і пры МТС. Мы маем сотні калгасаў, у якіх нядрэнна праходзіць агратэхнічная вучоба калгаснікаў у гуртках.

А вось прагледзіце нашы раённыя газеты і вы не ўбачыце гэтага.

Вось пытанні, якія нельга абыходзіць моўчкі, асвятляючы ход падрыхтоўкі да веснавой сяўбы. Кожная газета, кожны яе работнік павінен памятаць яшчэ і тое, што падрыхтоўка кадраў — гэта не кампанія, якая праводзіцца толькі ў сувязі з падрыхтоўкай да веснавой сяўбы. Барацьбу за вырошчванне кадраў трэба весці з дня ў дзень, шырока паказваючы жывых людзей — стаханаўцаў, барацьбітоў калгаснай вытворчасці, майстроў высокіх ураджаяў.

---

## АГЛЯД ДРУКУ

# Стаханаўскі дзень у калгасе

Стаханаўскі рух усё глыбей пранікае ў калгасную вёску. Гераічны прыклад першых стаханавак і стаханаўцаў со- цыялістычных палёў — тт. **Дземчэнка, Ангелінай** і соцень іншых, адзначаных партыяй і ўрадам вышэйшай узнагаро- дай, выклікаў магутную хвалю творчай энергіі калгасных мас, якая накіравана на барацьбу за высокі ўраджай, за 7 — 8 мільярдаў пудоў хлеба.

Тысячы перадавікоў барацьбы за со- цыялістычны ўраджай — гэта новыя людзі, якіх выхаваў калгасны лад, вы- хавала комуністычная партыя, гэта лепшыя людзі цудоўнейшай сталінскай эпохі.

Рад прыкладаў гаворыць аб тым, што і калгасы ордэнаноснай Беларусі ўжо высунулі і высоўваюць не адзін дзеся- так выдатных майстроў соцыялістычна- га ўраджаю.

Сёння мы можам гаварыць ужо не **толькі пра асобных адзіночак**-стаханаў- цаў у калгасах. Стаханаўскі рух у кал- гасах набывае ўсё большы размах. Ста- ханаўскія метады працы пачынаюць ахапляць ужо цэлыя калгасныя брыга- ды, нават цэлыя калгасы. У гэтых ад- носінах паказальны і знамянальны ста- ханаўскія дні, праведзеныя многімі пе- радавымі калгасамі рэспублікі.

**Няма чаго і гаварыць** аб той велізар- нейшай ролі, якую павінны адыграць раённыя газеты ў справе папулярыза- цыі гэтага першага вопыту, у справе дапамогі калгасам у арганізацыі работы па-стаханаўску, у выяўленні недахопаў і перашкод, якія сустракае разгортван- не стаханаўскага руху на сваім шляху.

**
*

Паказальны прыклад **бабруйскай** раённай газеты **«Комуніст»**. Рэдакцыя «Комуніста» з'явілася ініцыятарам пра- вядзення першага ў раёне стаханаўска- га дня ў калгасе імя Варашылава, Ця- лушскага сельсовета. Стаханаўскі дзень у гэтым калгасе прайшоў выдатна. Ус- таноўленыя нормы выпрацоўкі на воз- цы гною, сена і торфу былі значна пе- равыкананы.

20 студзеня газета змясціла пісьмо групы калгаснікаў калгаса імя Вара- шылава, у якім перадаецца вопыт пер- шага ў раёне стаханаўскага дня ў калгасе. Сакрэт поспехаў стаханаўска- га дня ва ўшчыльненні рабочага часу і правільнай арганізацыі працы.

Вось што пішуць у сваім пісьме кал- гаснікі:

**«Звычайна возчыкі самі накопваюць гной у хлявах, рубяць торф і ўтрам- боўваюць яго ў кучы. На гэта ўхо- дзіць шмат часу, і коні фактычна ра- ботаюць 3—4 гадзіны ў рабочы дзень. Мы вылучылі пагэтаму ў кожнай бры- гадзе некалькі капальнікаў гною, руб- шчыкаў торфу і ўтрамбоўшчыкаў гною і торфу ў кучах на полі, вызваліўшы гэтым самым возчыкаў гною ад пад- собнай работы».**

У тым-жа нумары «Комуніста» зме- шчана пастанова райкома партыі, які ўхваліў ініцыятыву рэдакцыі і намеціў рад мерапрыемстваў па распаўсюджан- ню вопыту першага стаханаўскага дня на ўсе калгасы раёна. У прыватнасці райком партыі рашыў правесці 24 сту- дзеня ўсераённы стаханаўскі дзень у калгасах. Шэфскім арганізацыям пра- панавана аказаць дапамогу калгасам у правядзенні стаханаўскага дня.

Як ні дзіўна, рэдакцыя «Комуніста», так добра пачаўшая гэту выдатную справу, у далейшых нумарах не на- дала ёй патрэбнай увагі.

Перад намі два апошнія нумары га- зеты «Комуніст» — за 22 і за 24 сту- дзеня.

У першым нумары пра падрыхтоўку стаханаўскага дня ў калгасах не сказа- на ні слова. І гэта за два дні да яго

правядзення! У нумары за 24 студзеня змешчана адна заметка пра стаханаўскі дзень у калгасе «Усход». І гэта ўсе. Як калгасы рыхтуюцца да ўсераённага стаханаўскага дня, як мяркуюць арганізаваць работу, якія новыя мерапрыемствы праводзяць і, нарэшце, што перашкаджае падрыхтоўцы—гэта-ж усё важнейшыя пытанні, якія павінны былі знайсці свой адбітак на старонках газеты і якія абойдзены «Комуністам».

***

У **аршанскай** раённай **газеце «Ленінскі прызыў»** таксама знаходзім апісанне стаханаўскага дня ў калгасе імя Гікало.

Падрабязны артыкул у нумары за 21 студзеня знаёміць з усімі працэсамі работы калгаса ў стаханаўскі дзень. Вельмі добра, што ў артыкуле адводзіцца месца (праўда, недастатковае) таму, як калгаснікі рыхтаваліся да стаханаўскага дня.

У гэты дзень калгаснікі калгаса імя Гікало зрабілі столькі, колькі звычайна рабілася за тры дні. Гэта выдатны паказальнік. Асобныя калгаснікі (каваль т. Жадрынскі, брыгады па возцы гною і інш.) выканалі свае заданні на 300 процантаў. Асобныя калгаснікі зарабілі па 4—5 працадзён.

Газета падрабязна спыняецца на тым, як была арганізавана работа ў гэты дзень, знаёміць чытача з тымі новымі мерапрыемствамі, якія ўведзены ў калгасе для павышэння прадукцыйнасці працы.

Перадавы артыкул гэтага нумара «Ленінскага прызыва» таксама прысвечан стаханаўскаму дню ў калгасах. Але калі артыкул пра стаханаўскі дзень у калгасе імя Гікало адрозніваецца канкрэтнасцю, то аб перадавым артыкуле гэтага сказаць нельга. У ім нават не сказана аб перанясенні каштоўнага палчыну калгаса імя Гікало ў астатнія калгасы раёна, не дан аналіз і не зроблены практычныя вывады з поспехаў, якіх дабіўся калгас імя Гікало ў стаханаўскі дзень. Замест гэтага перадавы артыкул на тры чвэрці запоўнен агульнымі разважаннямі аб неабходнасці змагацца за ўзорную падрыхтоўку да сяўбы, за высокі ўраджай.

У апошніх нумарах «Ленінскага прызыва» за 22-е і 24-е студзеня пра стаханаўскі дзень у калгасах не надрукавана ні радка. Між тым няма сумнення, што добры пачын калгаснікаў калгаса імя Гікало знайшоў жывое падтрыманне ў радзе перадавых калгасаў раёна. Бясспрэчна, гэтыя калгасы таксама жадаюць узняць прадукцыйнасць працы, правесці стаханаўскі дзень. І прамая задача газеты — дапамагчы ім у гэтай справе.

Мяркуючы па старонках «Ленінскага прызыва», рэдакцыя газеты не надала стаханаўскім дням у калгасах таго значэння, якога яны заслугоўваюць.

***

Прыклад першых стаханаўскіх дзён у калгасах наш друк павінен папулярызаваць, спрыяць яго хуткаму пашырэнню. Тут нельга абмяжоўвацца агульнымі разважаннямі па поваду стаханаўскага духу ў калгасах, агульнымі разважаннямі аб высокім ураджаі. Няхай тыя газеты, якія так часта паўтараюць у агульных неканкрэтных артыкулах словы «стаханаўскі рух», няхай яны па прыкладу газеты «Комуніст» практычна арганізуюць стаханаўскі дзень у адным-двух калгасах.

І калі справа будзе арганізавана правільна і газета здолее перадаць вопыт усім калгасам, то гэта дасць карысці ва многа раз больш, чым дзесяткі агульных артыкулаў аб стаханаўскім руху.

Тут патрэбна пэўная паслядоўнасць і сістэма. Мы ўжо адзначалі недахопы бабруйскай і аршанскай газет, якія пытанні пашырэння стаханаўскіх дзён у калгасах яшчэ не здолелі ставіць сістэматычна, не здолелі паказаць, як вопыт першых стаханаўскіх дзён падхапляецца астатнімі калгасамі раёна. А ў гэтым-жа галоўнае.

Трэба спадзявацца, што газеты «Комуніст», «Ленінскі прызыў», якія першымі падхапілі выдатны пачын стаханаўскіх дзён у калгасах, у далейшым будуць узорамі ў гэтай важнай справе.

# Газеты і новая ступень стаханаўскага руху

Стаханаўскі рух прыняў новыя, вышэйшыя формы. Рэкорды адзіночак становяцца ўзроўнем работы цэлых брыгад, змен, прадпрыемстваў. Амаль на ўсіх прадпрыемствах праведзены стаханаўскія суткі, якія паказалі, як вялікі і наколькі не выкарыстаны нашы магчымасці.

Цяпер трэба грунтоўна вывучыць вопыт стаханаўскіх сутак з тым, каб, улічыўшы ўсе выяўленыя вузкія месцы і ліквідаваўшы іх, перахозіць на стаханаўскія пяцідзёнкі, дэкады, месяцы, пачаць працаваць па-стаханаўску ўвесь час, усім прадпрыемствам.

Фабрычна-заводскі друк пры падагульненні вынікаў стаханаўскіх сутак павінен мабілізаваць увесь калектыў прадпрыемства на вывучэнне і распаўсюджанне лепшага вопыту, на знішчэнне вузкіх месц, выяўленых стаханаўскімі суткамі.

Газета **«За торф»** (орган парткома Асінторфа) зразумела гэту задачу. Праведзены стаханаўскія суткі на адным вытворчым участку. Газета з нумара ў нумар падрабязна разбірае вопыт стаханаўскіх сутак, шырока паказвае поспехі лепшых стаханаўцаў.

На прыгараднай гаспадарцы быў праведзен першы стаханаўскі дзень. Газета аб гэтым піша 4 студзеня, 9 зноў варочаецца да вопыту работы ў стаханаўскі дзень. На торфзаводзе яшчэ не арганізавалі стаханаўскіх сутак. Газета ўмела, як прапагандыст і арганізатар, узнімае пытанне перад адміністрацыяй завода аб арганізацыі стаханаўскай змены і сутак на заводзе. 9 студзеня ў перадавым артыкуле пад загалоўкам «Да стаханаўскіх змен, сутак і дэкад» газета піша:

> **«Вопыт правядзення стаханаўскіх змен, сутак, дэкад — гэтай новай ступені стаханаўскага руху не знайшоў шырокага распаўсюджання на нашым заводзе».**

І далей:

> **«Блізіцца дзень ударніка — 11 студзеня. Адзначыць гэты дзень стаханаўскімі суткамі, зменамі — з'яўляецца першай задачай».**

11 студзеня ў перадавым артыкуле, падводзячы вынікі стаханаўскіх сутак, газета піша:

> **«Першыя поспехі стаханаўскіх сутак і змен на нашым заводзе павінны быць замацаваны і пашыраны з тым, каб на аснове здабытага вопыту, з павялічанымі радамі стаханаўцаў пайсці ўперад к стаханаўскім пяцідзенкам, дэкадам, месяцам».**

Вынікі гэтай работы газета адразу можа бачыць. Рад брыгад, абмеркаваўшы вынікі стаханаўскіх сутак, абавязаліся правесці стаханаўскія пяцідзёнкі.

⁂

Нядрэнна вядзе барацьбу за пераход на новую вышэйшую ступень стаханаўскага руху газета **«Сельмашац»** (орган парткома завода Гомсельмаш). Газета не спыняецца на поспехах стаханаўскіх сутак.

> **«Ад стаханаўскіх сутак мы абавязаны перайсці да стаханаўскіх пяцідневак, дэкад і месяцаў—**

піша «Сельмашац».

Замацаванне поспехаў стаханаўскіх сутак павінна быць выражана ў высокім узняцці прадукцыйнасці працы ўсяго прадпрыемства, кожнага асобнага рабочага. Задача фабрычна-заводскіх газет—сістэматычна весці паказ росту выпрацоўкі ў часе стаханаўскіх сутак і пасля іх, арыентуючы на новае павышэнне выпрацоўкі, паказваць рост новых ста-

ханаўцаў, іх поспехі ў час і пасля стаханаўскіх сутак, дэкад, месяцаў.

Газета «Сельмашац» нядрэнна спраўляецца з гэтай задачай. 17 студзеня пад загалоўкам «Назаўтра пасля стаханаўскіх сутак». газета дала выступленне стаханаўца **Шагала**, які свой дзенны план у часе стаханаўскіх сутак выканаў на 737 процантаў.

**«Але назаўтра, 9 студзеня сваю дняўную норму я выканаў усяго на 190 процантаў. Проста сорамна сказаць,—**

піша т. Шагал.

Тав. Шагал ускрывае прычыны зніжэння выпрацоўкі.

**« А вінавата ў гэтым выключна адміністрацыя цэха. Мяне не забяспечылі матэрыялам, я не меў на руках плана работы. Адміністрацыя не змагаецца, не зацікаўлена ў тым, каб пасля стаханаўскіх сутак я работаў яшчэ лепш.**

Так газета прааналізавала работу ў час стаханаўскіх сутак і пасля іх раду лепшых стаханаўцаў завода. «Сельмашаць»падвёў вынікі работы і ўсяго завода цалкам:

**«Апошнія дні пасля стаханаўскіх сутак паказваюць, што мы тэмпаў не замацавалі. Выпуск малатарань і конных прыводаў зменшыўся. Атрымаўся перабой з-за адсутнасці жалеза. Дырэкцыя завода абавязана неадкладна ўлічыць гэты урок»**

«Сельмашац» паказвае і рост стаханаўцаў па заводу ў выніку правядзення стаханаўскіх сутак.

**«Нашы стаханаўскія рады значна пашырыліся. Зараз у нас налічваецца 300 стаханаўцаў, замест ранейшых 200. Электразваршчык брыгады шырспажыву т. Кушняроў, які работае на зварцы ключоў, план выканаў на 470 процантаў. Такой выпрацоўкі т. Кушняроў яшчэ ніколі не даваў.**

**Самы малады стаханавец завода— —Юзя Хайтман перакрыў усе свае папярэднія рэкорды. Свой план на абточцы колец Юзя выканаў на 333 проценты.**

**Небывалы процант выканання плана даў каваль Павел Лосеў. Па дэталі, якую ён рабіў упершыню (падушкі для ільнокамбайнаў), ён выканаў план на 393 проц.».**

Шырока паказваюць вынікі стаханаўскіх сутак і газеты **«За высокую якасць»** (орган парткома фабрыкі «Везувій»), **Кіравец»** (орган парткома менскага завода імя Кірава). «Кіравец» паказвае колькасны рост стаханаўцаў па заводу, тут-жа падае і вынікі іх работы па-стаханаўску.

У падборцы: «Хроніка стаханаўскага дня» газета піша:

**«т. Безік — новы рабочы па апілоўцы ціскоў, які не прыстасаваўся яшчэ да гэтай работы і заданне не дацягваў да 100 проц., даў 122 проценты. Тт. Рэшатаў, Зільберглейт і Андрыеўскі, звычайна выконваўшыя заданне не больш чым на 80—90 проц., павялічылі паказальнікі ў 2 разы».**

Але рад газет мала ўвагі звярнулі на выяўленне новых стаханаўцаў, на паказ узняцця прадукцыйнасці працы старымі стаханаўцамі ў час стаханаўскіх сутак, пяцідневкі і т. д. Да такіх газет можна аднесці **«Чырвоны паперцік», «Цягнік соцыялізма»** (гомельскі вагонарамонтны завод імя Ланцуцкага) і інш.

Да сур'ёзных недахопаў раду фабрычна-заводскіх газет трэба аднесці тое, што яны супакоіліся на вынiках стаханаўскіх сутак.

Газета «Чырвоны паперцік» у стаханаўскія суткі аператыўна выпусціла 3 бюлетэні, але нічога не зрабіла, каб замацаваць поспехі стаханаўскіх сутак, не мабілізавала ўсіх рабочых і спецыялістаў прадпрыемства на далейшую работу па-стаханаўску.

Гэты-ж вывад трэба зрабіць у адносінах газеты Бярэзінскага камбіната **«Чырвоны бярэзінец»**, газеты запалкавай фабрыкі «Везувій», **«За высокую якасць»** і інш.

А задача фабрычна-заводскага друку заключаецца-ж імена ў тым, каб на вопыце праведзеных першых стаханаўскіх сутак мабілізаваць усіх рабочых свайго прадпрыемства на замацаванне першых поспехаў, на правядзенне стаханаўскіх пяцідневак, дэкад, месяцаў, на тое, каб працаваць па-стаханаўску ўвесь год.

# Змястоўная, цікавая інфармацыя

Добра пастаўленая інфармацыя ў га-
зеце мае велізарнае значэнне. Ад рас-
шырэння тэматыкі інфармацыі часта
залежыць жывасць, цікавасць газеты і
расшырэнне кругазору яе чытачоў.

Жыццё наша рознастойнае і шмат-
граннае. Кожны дзень прыносіць но-
выя перамогі, новыя дасягненні. Ра-
стуць героі працы. Расце культура, ра-
стуць патрабаванні людзей, расце, ву-
чыцца і развіваецца наша моладзь.
Газета, як агітатар, прапагандыст і ар-
ганізатар, павінна ўводзіць свайго чы-
тача ў курс справы жыцця ўсяго Саю-
за, прадпрыемстваў, асобных людзей.

Многія фабрычна-заводскія газеты
працуюць па-старынцы. У іх мала ці-
кавай інфармацыі, мала матэрыялаў з
жыцця нават свайго прадпрыемства,
а саюзнай, рэспубліканскай, міжнарод-
най інфармацыі часта зусім не зной-
дзеш на газетных старонках.

Прыкладам шырока пастаўленай ін-
фармацыі можа паслужыць газета
**«Беларускі фарватар»** (орган парткома
Днепра-дзвінскага райкамвода).

Газета сістэматычна вядзе такія ад-
дзелы: **«Па СССР», «Навіны дня», «Па
басейну», «За граніцай», «Бібліягра-
фія», «Дзень нашага параходства»,
«Па БССР», «Справачнік», «Партыйная
хроніка», «Навука і тэхніка».**

Перад намі камплект «Беларускага
фарватара», з 5 па 22 студзеня 1936 г.
Усяго шэсць нумароў. Цікава, аб
чым можа даведацца чытач гэтай газе-
ты з 6 нумароў за тры тыдні.

Возьмем аддзел «Навіны дня». У гэ-
тым аддзеле 5 студзеня змешчаны ін-
фармацыі: пра абязбольванне родаў —
работа ў гэтай галіне менскага цэнт-
ральнага радзільнага дома, пра лятаю-
чы аўтамабіль — новы самалёт, за-
бяспечаны аўтамабільным маторам; аб
скаварадах і чайніках з жараўстойліва-
га шкла.

8 студзеня ў гэтым аддзеле змешча-
на 14 цікавых паведамленняў: аб роз-
ных таварах, паступіўшых у магазіны
воднікаў, аб плане таваразвароту ОРС'а,
пра адкрыццё цэнтральнай воднай па-
лікліцікі і электрагабінета, аб паступ-
ленні радыё-прыёмнікаў для стаханаў-
цаў, аб надыходзе луннага зацмення
і інш.

20 студзеня чытаем заметкі аб хут-
кай дапамозе на самалётах, аб прыёме
гукавых кінофільмаў на даму, аб но-
вым спосабе замены ліцця дэталей у
суднабудаўнічай прамысловасці штам-
поўкай — выніці работы навукова-тэх-
нічнага таварыства ліцейшчыкаў Балт-
флота.

22 студзеня ў аддзеле «Навіны дня»
паведамляецца аб паспяховым выканан-
ні плана рамонту параходаў у Чорна-
быльскім затоне, пра вылучэнне 7 ура-
чоў для работы на буйнейшых вырата-
вальных станцыях Беласвода, аб па-
паўненні флота чатырма буксірнымі ма-
тацыкламі.

Рэдакцыя змагла для такіх шматлі-
кіх і багатых паведамленняў заняць зу-
сім мала месца ў газеце, падаючы ма-
тэрыял сціла і коратка.

Інфармацыя робіць газету цікавай,
жывой.

Мы паказалі толькі адзін аддзел.
Варта спыніцца яшчэ на аддзелах: «Па
СССР» і «Па БССР». У аддзеле «Па
СССР» у апошніх нумарах газеты зме-
шчаны паведамленні аб узнагародзе пера-
давікоў ураджайнасці, аб рэкордах леса-
рубаў, перайменаванні Екацярынінскай
чыгункі ў Сталінскую, перабудове тра-
дыцыйнага харчавання, аб новым трэні-
ровачным палёце ў стратасферу. Паве-
дамляецца аб устанаўленні прамой су-
вязі СССР з Англіяй, паведамленне аб
выпуску новай манеты, аб тыражах
дзяржпазык у лютым і т. д.

У аддзеле «Па БССР» — аб начных
санаторыях для стаханаўцаў, пра выня-
ходства калгасніка т. Шульга вымя-
ральніка адлегласцей, аб заможнай
сям'і калгасніцы Лазаравай.

У аддзелах газеты «Па басейну» і
«Дзень нашага параходства», вельмі мно-
га цікавага для водніка-чытача. Жыццё
басейна выступае перад чытачом яркай
кіностужкай. Нядрэнна «Беларускі фар-
ватар» вядзе і аддзел «За рубяжом».

Рэдактары газет павінны падумаць
над скарыстаннем каштоўнага вопыта
работы газеты «Беларускі фарватар».

# Прозвішчы ордэнаносцаў красаваліся у насценгазеце

5 студзеня ў калгасе імя Варашылава, Тураўскага раёна, дзень быў незвычайны. Хаты калгаснікаў, арка, трыбуна, калгасная канцэлярыя, клуб былі ўпрыгожаны чырвонымі сцягамі, зялёнымі ёлкамі, лозунгамі, партрэтамі правадыроў. Праз вуліцу расцягнулася шырокае палотнішча, на якім вялікімі літарамі было напісана: «Палкае калгаснае прывітанне ордэнаносцам Блоцкаму і Юхневічу!»

Гэтыя два прозвішчы красаваліся ў той дзень не толькі на палотнішчы. Іх можна было прачытаць і на плакатах у калгасным клубе, і ў калгаснай насценнай «Ільічоўцы» **«Ударнік»**.

У той дзень «Ільічоўка» вышла поўнасцю прысвечаная сустрэчы старшыні калгаса тав. **Блоцкага** і калгасніка тав. **Юхневіча**, якія вярнуліся з Масквы, узнагароджаныя ўрадам ордэнамі Чырвонага працоўнага сцяга. Насценгазета пісала ў перадавым артыкуле:

**«Вялікая радасць ахапіла ўсіх калгаснікаў, калі яны даведаліся аб узнагароджанні лепшых барацьбітоў за ўраджай тт. Блоцкага і Юхневіча вышэйшай узнагародай. З нецярплівасцю чакалі мы іх прыезду з Масквы. Сёння яны прыязджаюць. Ім трэба арганізаваць цёплую сустрэчу. У адказ на ўзнагароду мы павінны мабілізаваць сябе на барацьбу за высокі сталінскі ўраджай».**

Далей ідуць выступленні калгаснікаў і калгасніц. Пад агульным загалоўкам «З чым мы сустракаем ордэнаносцаў» і калгасны каваль Леўкавец, і конюх Рай Міхась, і даярка Рай Жэня расказалі аб поспехах работы на тых участках, дзе яны працуюць.

Але не толькі гэты нумар «Ільічоўкі» «Ударнік» такі жывы і прывабны. У кожным яе нумары вы можаце знайсці заметкі аб рабоце лепшых людзей калгаса, у тым ліку і ордэнаносца Юхневіча. Адначасова газета бязлітасна змагаецца з гультаямі і прагульшчыкамі.

Газета не прапускае ні аднаго важнага факта ў жыцці Савецкага Саюза. Калі ў краіне разгарнуўся масавы стаханаўскі рух, «Ільічоўка» адразу-ж расказала сваім чытачам пра сутнасць стаханаўскіх метадаў работы і заклікала калгаснікаў пачаць працаваць па-новаму, па-стаханаўску. Газета пісала тады:

**«Усім добра вядомы прозвішчы Стаханава, Бусыгіна, Дземчэнка і іншых стаханаўцаў. Аб гэтых людзях гавораць зараз у кожным кутку Савецкага Саюза, як аб героях працы. Наша задача выхаваць сваіх стаханаўцаў».**

Тут-жа газета прыводзіць прозвішчы калгаснікаў Якубоўскага Сцяпана, Якубоўскага Аляксея, Юхневіча Мацвея і інш., якія аддана працуюць у калгасе, перавыконваючы нормы выпрацоўкі.

Характэрна адзначыць і той факт, што амаль усе матэрыялы, якія падаюцца ў газеце, напісаны жывой сакавітай мовай. Заметка аб начной малацьбе ў калгасе, напрыклад, пачынаецца так:

**«Ноч. На дварэ цёмна і ціха. Толькі рэзкі гул трактара парушае гэту цішыню і часамі чуецца вясёлы смех дзяўчат. На калгасным таку ідзе малацьба».**

Нядрэнна пастаўлена і мастацкае афармленне газеты. У кожным нумары можна знайсці 3—4 малюнкі. Робяцца яны шляхам пераводу з малюнкаў, прысылаемых «Крестьянской газетой», з якою рэдкалегія насценгазеты, у прыватнасці яе рэдактар **Ледзяневіч**, трымае шчыльную сувязь. Тав. Ледзяневіч з'яўляецца слухачом арганізаваных «Крестьянской газетой» завочных курсаў рэдактароў калгасных газет. Тав. Ледзяневіч вучыцца сам і вучыць сваіх насценкораў, якіх налічвае насценгазета «Ударнік» каля 50. Не радзей аднаго разу ў месяц з імі праводзяцца нарады, на якіх насценкоры вучацца, аб чым і як трэба пісаць у газету.

Набліжаецца вясна. Калгас па-баявому рыхтуецца да сяўбы. У адказ на ўзнагароджанне ўрадам тт. Блоцкага і Юхневіча калгаснікі абавязаліся дабіцца ў гэтым годзе 25—30 цэнтнераў зернавых з гектара і 250 цэнтнераў бульбы. Калгасная газета «Ударнік» ведзе сваю ролю ў выкананні гэтай задачы. Яна па-бальшэвіцку мабілізуе калгаснікаў на барацьбу за высокі сталінскі ўраджай.

## ПАСЛЯ РАШЭННЯЎ ПЛЕНУМА ЦК ВКП(б)

★ ★ ★

# ГАЗЕТА І ФАБРЫЧНАЯ САПРАЎДНАСЦЬ

У рашэннях снежаньскага пленума ЦК ВКП(б) аб разгортванні стаханаўскага руху па лёгкай прамысловасці гаворыцца: «Забяспечыць найбольш поўнае скарыстанне вытворчых магутнасцей і павышэнне каэфіцыента карыснага дзеяння абсталявання шляхам зніпчэння прастояў і павелічэння хуткасцей машын, варштатаў і агрэгатаў. Пры пераходзе стаханаўцаў на абслугоўванне большай колькасці варштатаў і машын забяспечыць далейшае павышэнне прадукцыйнасці абсталявання».

Зусім зразумела, што выходзячы з указанняў пленума фабрычна-заводскія шматтыражкі лёгкай прамысловасці БССР павінны былі па-новаму арганізаваць сваю работу. Але гэтага яшчэ няма.

Шматтыражка **«Кімавец»** (рэдактар т. **Вайман)** прайшла міма барацьбы за якасць прадукцыі, за поўнае выкарыстоўванне магутнасці фабрычнага абсталявання.

Між тым, па фабрыцы ў фарбарна-апрэтурным цэху брак дасягае ўсё большых і большых размераў. 26 снежня 1935 года брак дасягнуў 331 кгр. трыкатажнага палатна, а 2 і 4 студзеня 1936 года — 1.756 кгр. За адных толькі 8 дзён фарбарна-апрэтурны цэх па трыкатажнаму палатну даў 2.756 кгр. браку. Гэта прывяло да таго, што швэйна-бялізнавы цэх 7 студзеня быў вымушан зрабіць выхадны дзень і як вынік—126 рабочых гадзін прастою.

Здарылася гэта таму, што фарбаўшчыкі, перайшоўшыя на абслугоўванне двух барак замест адной, захапіліся колькаснымі паказальнікамі і трымалі тавар у барках на палову менш належачага часу. Гэтым самым рэжым афарбоўкі не вытрымліваўся. Кіраўніцтва цэха, ведаючы аб тым, што выпускаецца зўны брак і трацяцца тысячы рублёў, ніякіх мер не прымала. Яно не накіравала стаханаўскі рух па правільнаму шляху, апашляла стаханаўскі рух.

«Кімавец» спакойна прайшоў міма гэтых абураючых з'яў. За першыя 15 дзён студзеня вытворчы план фабрыкі выканан толькі на 91,8 проц. Тут ужо газета вымушана была загаварыць. У перадавым ад 19 студзеня мы чытаем:

> **«Прычыны гэтага ганебнага прарыву крыюцца... у недапушчальнай заспакоенасці, няўвязцы паміж цэхаў, безадказнасці асобных кіраўнікоў, аб чым сведчаць факты псавання ў фарбарным цэху вялікай партыі тавару, павелічэнне процанту штопкі, недапусціма дрэнная работа аддзела забеспячэння».**

Дарэмна вы будзеце пераглядаць заметкі, артыкулы, шукаць падрабязны матэрыял аб псаванні тавараў у фарбарным цэху, аб безадказнасці кіраўнікоў. Усё гэта пакуль што з'яўляецца сакрэтам для чытачоў. «Кімавец» не палічыў патрэбным указаць прозвішча кіраўнікоў, прозвішчы вінаватых у псаванні тавараў.

13 студзеня вышаў 200 нумар газеты «Кімавец». У ім мы чытаем заметку: «На вечары, прысвечаным «Дню ўдарніка», дзе гаворыцца аб тым, што

> **«сакратар гаркома партыі т. Жураўлёў у сваёй прамове асаблівую ўвагу звярнуў на неабходнасць паляпшэння якасці прадукцыі, эканоміі сыравіны і інш».**

Зразумела, што гэта адносіцца і да фабрычнай шматтыражкі. Аднак, газета, паказваючы работу першых стаханаўскіх змен, ні слова не сказала аб якасці прадукцыі, аб выкарыстоўванні тэхнікі да дна.

Амаль у кожным нумары газеты «Кімавец» мы знаходзім заметкі і артыкулы, а часамі цэлыя старонкі аб стаханаўскім руху. Але не колькасцю змешчаных радкоў і заметак вызначаецца



Маня Мясоедава — стаханаўка цэха попьтаў фабрыкі «Сцяг індустрыялізацыі» актыўная рабкорка.



Дора Білевіч — стаханаўка, актыўная рабкорка шматтыражкі.

барацьба газеты за выкананне рашэнняў снежаньскага пленума ЦК ВКП(б), а тым, як яна дапамагае партарганізацыі ў выкананні рашэнняў пленума.

Паслухаем, што гавораць рабкоры і стаханаўцы аб сваёй рабоце. Тав. **Аляксеева** з вязальнага цэха расказвае:

— На ластычным участку работніцы працавалі на 12 машынах. З пераходам на стаханаўскія метады работы многія перайшлі працаваць на 24 машынах. Кіраўніцтва цэха вывешвала спіс стаханаўцаў і іх заработак, дзе паказвалася, што за абслугоўванне 12 машын работніца атрымлівае 4 руб. 78 кап., а стаханаўка на 24 машынах атрымае каля 10 руб. На самой справе стаханаўкі, выконваючыя норму на 24 машынах, атрымалі па 5 руб. 77 кап. Назаўтра работніцы Масько, Барысенка і рад іншых адмовіліся ад работы на 24-х машынах.

Стаханаўка **Сушчэўская** заяўляе, што машына яе дрэнна адрэгулявана і таму яна пачала выконваць норму толькі на 80 проц., але ніхто не звярачае на гэта ўвагі.

Дырэкцыя фабрыкі ўстанавіла такі парадак, па якому стаханавец атрымлівае зарплату з разліку 4 р. 78 кап. за выкананне нормы на 18 машынах. Работніцы, якія абслугоўваюць 12 машын, атрымліваюць таксама 4 р. 78 кап. Газету гэта не турбуе, яна не растлумачвае рабочым аб рашэннях пленума па пытанню стаханаўскага руху, не выкрывае няправільную ўстаноўку кіраўніцтва фабрыкі.

Раней на выпуску каляровых наскоў прадукцыйнасць адной машыны складала **527 машына-гадзін,** а зараз пры абслугоўванні адной работніцай замест трох чатырох машын прадукцыйнасць машыны складае **478 машына-гадзін.**

Такіх фактаў многа. Газета абавязана была загаварыць аб гэтым поўным голасам. Але яна не ўзняла гэтых пытанняў, прайшла міма іх, не мабілізавала рабочых на ўзняцце прадукцыйнасці працы, на скарыстанне поўнай магутнасці машын.

Нельга прайсці міма апашлення газетай дзелавой прапрацоўкі рашэнняў снежаньскага пленума ЦК. У заметцы **«Цікава і карысна»** аб прапрацоўцы рашэнняў пленума ЦК камсамольцамі швэйна-кецельнага цэха газета піша:

**«Кароткі даклад, выступленні комсамольцаў Анушкенка, Добравольскай, Норкінай і інш., канкрэтныя абавязкі ў парадку падрыхтоўкі да 10 з'езда ВЛКСМ, выклік Добравольскай ад імя брыгады на спаборніцтва брыгады Мішурынай па пытанню разгортвання стаханаўскага руху была ўмела спалучана з вясёлым і карысным адпачынкам. Да пачатку і пасля сканчэння прапрацоўкі рашэнняў пленума моладзь пад гукі гармошкі і патэфона танцавала і пела. Такі метад абгаварэння важнейшых пытанняў дастойны прыкладу».**

Так газета прапагандуе даўно асуджаны партыяй метад, калі важнейшыя партыйныя рашэнні не прапрацоўваліся глыбока, а танулі ў хвалях рознай адсябяціны, накшталт палітвудачак, вікторын і т. д. Нельга раіць прымяняць шкодныя, асуджаныя формы прапагандысцкай работы.

**
*

«На абслугоўванне вялікай колькасці машын і варштатаў трэба пераводзіць з толкам, праводзячы загадзя добрую падрыхтоўчую работу, пераводзіць так, каб за гэтым пераводам следавала павышэнне прадукцыйнасці працы на кожны варштат. Інакш, які-ж сэнс гэтага ўшчыльнення» **(Андрэеў).**

Нам прышлося быць на ільнопрадзільнай фабрыцы імя Кагановіча ў першы дзень стаханаўскай дэкады. І трэба сказаць, што ў гэты дзень было шмат шуму, беганіны, але вельмі мала толку. Цэхі не падрыхтаваліся як след да стаханаўскай дэкады і гэта сказалася на выніках. Вядучы ватэрны цэх за першы дзень стаханаўскай дэкады выканаў план каля 88 проц. Першыя тры гадзіны з-за адсутнасці рагуль, валікаў, катушак, прастаялі 767 верацён. Прастоі на фабрыцы разглядаюцца як звычайная рэч. А іх вельмі многа па віне недагляду тэхнічным персаналам машын і несвоечасовага рамонту іх. А між тым ўсё гэта прыкрываецца адной прычынай... не было электраэнергіі.

У работніцы ткацкага цэха **Масько** за 15 дзён было звыш 48 гадзін прастою, у тав. **Спірыдзенка** звыш 40 гадзін. І гэта не адзіныя выпадкі, а масавая з'ява.



**Грыша Нікіфараў — стаханавец фабрыкі «Сцяг індустрыялізацыі», рэдактар лепшай брыгаднай насценгазеты.**



**Маня Саёнка—стаханаўка, камандзір пешага пераходу ў супроцьгазах па маршруту Віцебск—Менск, адна з першых парашутыстак фабрыкі, рэдактар брыгаднай насценгазеты.**

Фабрычная газета «**Чырвоная Дзвіна**» аддае вельмі мала ўвагі гэтаму пытанню.

На фабрыцы многія ткачыхі, як Галашова, Шатрова, Далгала і інш., не выконвалі сваю норму на двух машынах. Аднак, іх перавялі на тры-чатыры машыны. Па аднаму толькі ткацкаму цэху перавялі 14 рабочых на 3—4 машыны, а зараз прыходзіцца пераводзіць іх зноў на дзве машыны.

Ткачыхі Спірыдэнка А., Зайцава і Масько А., якія перайшлі на 3—4 машыны, выконваюць свой план толькі на 75—90 проц. Зайцава на трох машынах выпрацавала 132 метры мешкавіны, а работніца Канышчэнка на двух машынах — 100—104 метры. І зусім не дзіва, што фабрыка на працягу доўгага часу знаходзіцца ў прарыве і не выконвае свой план. Гэтымі днямі 40 работніц перавялі з трох варштатаў на два. Такі механічны пераход з 2-х на 3 і больш машын і наадварот уносіць блытаніну, зрывае выкананне плана.

Газета «Чырвоная Дзвіна» (нам. рэдактара **Скварцова**), праўда, пісала аб дрэннай якасці прадукцыі, аб дрэннай рабоце брыгадзіраў і аб тым, што стаханаўцы, перайшоўшыя на большую колькасць машын, павінны выконваць сваю норму. Але яна не вяла барацьбы за дзейснасць сваіх матэрыялаў і не давала сакрушальнага адпору такім шкодным настроям, што стаханаўцам з'яўляецца толькі той, хто пераходзіць на абслугоўванне большай колькасці машын.

Газета часта сігналізавала аб недахопах у разгортванні стаханаўскага руху. Але толькі сігналізавала. Глыбока вывучыць справу, узняць правільна пытанне перад партыйнай арганізацыяй, кіраўніцтвам фабрыкі, перад усім рабочым калектывам газета не здолела.

***

Паказ работы 2-х шматтыражак тэкстыльна-трыкатажнай прамысловасці Віцебска гаворыць аб тым, што гэтыя газеты яшчэ не зразумелі сваіх асноўных задач па ажыццяўленню рашэнняў пленума ЦК ВКП(б).

Асноўным-жа патрабаваннем пленума да лёгкай прамысловасці з'яўляецца «сістэматычная барацьба за паляпшэнне і рознастайнасць асартыменту прадукцыі, за павышэнне яе якасці, за лепшае афармленне, расфасоўку, і прыгожасць вырабаў у адпаведнасці з запатрабаваннямі спажыўца, як ключа да поўнага выканання плана другой пяцігодкі». І за ажыццяўленне гэтай задачы павінен змагацца фабрычна-заводскі друк.

**Р. СІМХОВІЧ.**

# НЕКАЛЬКІ ДЗЁН НАСЦЕНГАЗЕТЫ „ЗА ЯКАСЦЬ“

Большасць брыгадных штодзенак фабрыкі «**Сцяг індустрыялізацыі**», праўда, са спазненнем, але пядрэнна ўзяліся за перанясенне стаханаўскіх метадаў работы ў свае цэхі і брыгады. Газеты папулярызуюць работу лепшых стаханаўцаў і выкрываюць тых, хто перашкаджае ў іх рабоце.

Возьмем апошнія нумары газеты «**За якасць**» (касцюмны цэх змены «Б», 1-й стужкі 1 брыгады — рэдактар т. **Найдзёнава**). Аб чым піша гэта газета?

У нумары ад 3 студзеня паказана работа стаханаўкі Цвятковай. Тут-жа газета адзначае, што рабочы Магарыл дрэнна адносіцца да працы.

Выходзячы з рашэнняў снежаньскага пленума ЦК ВКП(б), які ўказаў, што галоўнае ў стаханаўскім руху для краўцоў — гэта ўзняць якасць прадукцыі, газета 5 студзеня змяшчае матэрыял аб тым, што Кублакоў, Круглоў і Зіноўеў перашкаджаюць брыгадзе выканаць рашэнне пленума. Яны даюць брак і парушаюць дысцыпліну. Газета патрабуе, каб яны сталі ў рады перадавых рабочых фабрыкі, не зрывалі работу калектыва.

У нумары ад 6 студзеня газета ўказвае, што брыгадзір Герман не падрыхтоўвае спінак і таму стаханаўцам прыходзіцца сядзець без работы.

8 студзеня газета зноў варочаецца да якасці прадукцыі. На канкрэтных фактах работы Мэнжынскай і Аўцюхо-

вай яна паказвае, як не трэба працаваць і ўказвае метады і прыёмы высокаякаснай работы.

У гэтым-жа нумары газета ўказвае, што старшы майстар т. Капілові́ч без уважлівых прычын адпускае рабочых дамоў, чым зрывае работу канвеера і не дае рабочым магчымасці падняць прадукцыйнасць працы.

Рыхтуючыся да стаханаўскіх сутак, газета ў нумары за 10 студзеня ўказала на вузкія месцы, якія трэба зараз-жа ліквідаваць. Так, работніца Івачова, якая працуе па-старому, затрымлівае работу ўсёй брыгады. Газета ўзнімае надзвычай цікавае пытанне аб культуры у рабоце, чыстаце рабочага месца. — піша газета.

**«Рабочыя павінны абедаць у прыгожай сталовай, якая ёсць на фабрыцы, а не ў цэху,**

11 студзеня ўся брыгада працавала па-стаханаўску. Газета мабілізуе рабочых не толькі на высокую прадукцыйнасць працы, але і на высокую якасць прадукцыі. Яна ўказвае, што сёння вузкім месцам з'яўляецца падрыхтоўка падкладкі к вярхам там, дзе працуе т. Герцык. Газета зноў вярочаецца да культуры ў рабоце і чыстаты рабочага месца.

Такіх брыгадных газет на фабрыцы «Сцяг індустрыялізацыі» многа. Але ёсць яшчэ зусім слабыя штодзенкі. І таму фабрычная шматтыражка «Сцяг індустрыялізацыі» арганізавала шырокую перадачу вопыту работы перадавых газет і рэдактароў, з тым, каб адстаючыя штодзенкі раўняліся па перадавой, прыкладной газеце «За якасць».

**ФЛЯЎМЕНБАЎМ.**

## З БЛАКНОТА ІНСТРУКТАРА

★ ★ ★

# НА РЭДАКЦЫЙНАЙ КАНАПЕ

Памятаеце сцэну з «Мёртвых душ», у якой Чычыкаў упершыню сустракаецца з памешчыкам Плюшкіным. Чычыкаў, які на сваім вяку бачыў віды, разгубіўся, аглядзеўшы карціну запусцення памешчыцкага дома. І ўжо ніяк не мог падумаць Чычыкаў, што асоба з ключамі за поясам, якая прадстала перад ім, і ёсць гаспадар дома. Паміж гасцём і гаспадаром адбылася такая размова:

«Што-ж барын? у сябе, ці што?»

«Тут гаспадар», — сказаў ключнік.

«Дзе-ж?» — паўтарыў Чычыкаў.

«Што, бацюшка, сляпы ці што? — сказаў ключнік, — «Эхва»!

А віць гаспадар-то я!»

Гэта сцэнка з «Мёртвых душ» нам прыйшла на памяць пры наведванні рэдакцыі пухавіцкай раённай газеты **«За калгасы».**

Было каля 10 гадзін вечара, калі мы пастукаліся ў дзверы рэдакцыі. Спачатку на стук ніхто не адказаў, потым за дзвярыма пачулася мітусня, стук перасоўваемай мэблі, крокі. «Хто там?» — пачуўся голас па той бок дзвярэй. Пасля нашага адказу некалькі мінут лязгала жалеза запораў, дзверы адчыніліся, і мы ўвайшлі ў памяшканне.

У калідоры было цемнавата. Трэба было вельмі асцярожна лавіраваць паміж горамі смецця, макулатуры, вёдрамі і іншымі рэчамі хатняга ўжытку, каб не расцягнуцца на падлозе.

З калідора мы папалі спачатку ў адзін пакой, потым у другі. Невялікая газніца кідала слабое святло на абстаноўку пакоя. Каля сцяны стаяла канапа, накрытая падушкамі, прасцірадламі і коўдрамі. Пад коўдраю спаў чалавек. Вакол стаялі крэслы, на якіх у беспарадку ляжала вопратка. Рэшта гардэробу жыхароў пакоя, якая не змяшчалася на крэслах, вісела на сценах...

Паражыўшы няёмкасць ад такога позняга наведвання спальні, мы звярнуліся да таварыша, які адчыніў дзверы:

— **Выбачце**, нам патрэбен рэдактар. **Ён** абяцаў быць зараз у рэдакцыі.

— Ён тут і ёсць, — пачуўся адказ.

— Дзе-ж ён?

— Дзе? Ды ён-жа перад вамі! Рэдактар-жа я і ёсць!

Так адбылося наша знаёмства з тав. **Панкратавым.** У далейшай гутарцы ён дапоўніў нашы і без таго багатыя ўражанні ад наведвання рэдакцыі. Аказваецца, што тав. Панкратаў начуе на рэдакцыйнай канапе ўжо другі год. Тут, у габінеце, знаходзяцца і ўсе яго рэчы. Часта з ім разам спіць работнік рэдакцыі тав. **Андросік,** калі позна засядзіцца ў рэдакцыі (кватэруе т. Андросік у калгасе за тры кілометры ад Пухавіч). Не так даўно пакінуў начаваць у рэдакцыі і другі работнік рэдакцыі т. **Бялевіч.**

— Я ўжо страціў надзею на атрыманне кватэры, — гаворыць т. Панкратаў. — Раней дык яшчэ назаляў раённаму начальству, а цяпер пакінуў гэта. Ды, па праўдзе кажучы, прывык я ўжо да такога жыцця. Абабіўся, як кажуць. Не хочацца ўжо і думаць пра кватэру.

Апошнія словы т. Панкратава наводзяць на сумныя разважанні. Як можа чалавек, які прывык да бескультур'я, да бруду і беспарадку, кіраваць такой культурнай справай, як раённая газета? Зусім зразумела, што гэта ў поўнай меры кладзе свой адбітак і на ўсю работу рэдакцыі. У рэдакцыі адсутнічае вучоба. Сам рэдактар не заўсёды прачытвае газеты, кніг амаль зусім не чытае. А астатнія работнікі рэдакцыі? Іх наогул няшмога. Мы называлі абодвух іх—гэта тт. Андросік і Бялевіч. Гэтыя два таварышы-комсамольцы плюс рэдактар т. Панкратаў — вось і ўсе работнікі, якія робяць газету «За калгасы».

Штат рэдакцыі не запоўнен і на палову. Няма намесніка рэдактара, няма сакратара, інструктароў... Не дзіўна пасля гэтага, што ў органе пухавіцкага райкома партыі зусім не асвятляецца жыццё раённай партыйнай арганізацыі.

Але, запытае чытач, у Пухавічах ёсць-жа райком партыі, ён-жа ў першую чаргу адказвае за работу, за становішча свайго органа. Як -жа райком дапамагае сваёй газеце?

Не будзем маўчаць, не так даўно бюро райкома заслухала даклад т. Панкратава аб рабоце газеты. Члены бюро, трэба думаць, сарамліва апускалі вочы, слухаючы расказ аб становішчы раённай газеты.

Пастанавілі таксама нядрэнна: на працягу трох дзён падшукаць т. Панкратаву кватэру і дапамагчы рэдакцыі падабраць работнікаў. Але добрыя пастановы добрымі будуць толькі тады, калі яны выконваюцца. Пакуль што адказны рэдактар органа Пухавіцкага райкома партыі не мае ні кватэры, ні работнікаў...

**ЮР. БЕЛЬКО.**

---

# За кулісамі

На віцебскай трыкатажнай **фабрыцы імя Клары Цэткін** ёсць свая шматтыражная газета. У цяжкіх муках нараджаецца кожны чарговы нумар газеты. Рэдактар шукае рабкораў, а рабкоры— рэдактара. Апошнім удаецца знайсці рэдактара тав. Халодную з вялікімі цяжкасцямі. Справа ў тым, што рэдактар знаходзіцца заўсёды ў клубе, за кулісамі сцэны, дзе адзін з грыміравальных пакояў адведзен для рэдакцыі.

Не лёгка зайсці рабкору ў гэту «рэдакцыю», бо перш за ўсё ён у дзверах сустракаецца з клубным вартаўніком:

— Ваш білет?

— Які білет? Нам трэба к рэдактару т. Халоднай.

— Ведаю я вас, рэдактароў. Без білета ў клуб хочаце прабрацца!...

— Тады паклічце яе сюды.

— Няма мне часу клікаць. Прыдзе заўтра на фабрыку, дык і адасце ёй заметку.

Дарэмна пераконваць вартаўніка. Ён

не пусціць. Яму забаронена пускаць ў клуб без білета.

Бывае і так, што ўдаецца прайсці без білета. Тады застаецца толькі адно — знайсці рэдактара.

Заходзім у «пакой», дзе змяшчаецца рэдакцыя. Два паломаныя сталы, разбіты бюст Леніна і каля 20 сцягоў клуба — вось абсталяванне рэдакцыі. Тут-жа скульптары нешта лепяць. Пра чыстату ў гэтым пакоі няма чаго і гаварыць.

Рэдактара т. Халодную мы так і не знайшлі — яна пашла шукаць месца, дзе можна было-б падрыхтаваць матэрыял для газеты.

Пасля доўгіх пошукаў спаткаліся мы з рэдактарам толькі на наступны дзень. Тав. Халодную мы засталі ў сваім пакоі, але не паспелі з ёю пагутарыць, як у клубе пачалі збірацца гуртоўцы. Раздаліся гукі кларнета і баса, затрашчаў барабан, заспявалі харысткі, і рэдактару стала цесна ў сваім пакоі. Тав. Халодная пашла ў пакой парткома, але там збіраліся комуністы на партзаняткі. У партгабінеце ішлі заняткі школы. Рашыла яна вярнуцца ў сваю рэдакцыю, але ўжо было позна. Клубныя работнікі паспелі і гэты пакой заняць.

Такія ўмовы адказнай і сур'ёзнай работы па выданню фабрычнай друкаванай газеты — органа партыйнага камітэта. І гэта на фабрыцы называецца клопатамі парткома і дырэкцыі аб сваёй газеце і яе рэдактару.

***

На акулярнай фабрыцы таксама выходзіць шматтыражка «Чырвоная акулярніца». Рэдагуе газету тав. **Андрзева.**

Рабкоры і рэдактары пізавых газет па старой прывычцы ў абедзены перапынак ідуць у пакой рэдакцыі. Але пакой па загаду дырэктара заняты тэхнічным аддзелам. Што датычыць рэдакцыйнага стала, то яго забрала дырэкцыя. І толькі архіў заметак дазволена рэдактару забраць.

Парашыў тады рэдактар перайсці працаваць у партгабінет, але загадчык гаспадаркі не дае стала. У часе гутаркі рэдактара з загадчыкам гаспадаркі са свайго габінета вышаў дырэктар фабрыкі тав. Галуза.

— Што за шум? Чаго яна хоча? — зварачаецца Галуза да свайго загадчыка гаспадаркі.

— Стол, — адказвае рэдактар.

— Ніякіх сталоў з тэхнічнага аддзела пераносіць не дазволю. Наогул вы мне надаелі...

Так жывуць, так працуюць фабрычныя газеты на двух прадпрыемствах Віцебска. Абураючыя, нецярпімыя, бяздушныя, прама сказаць, антыпартыйныя адносіны да астрэйшай зброі партыі.

# Завочную вучобу трэба арганізаваць

Больш поўгода назад журнал «Бальшэвіцкі друк» адзначыў зусім дрэнную работу асіпавіцкай **«Калгаснай праўды»** з рабселькорамі. Тады газеце было ўказана на нездавальняючую пастаноўку ў раёне выхавання і вучобы рабселькораў, вырошчвання з іх асяроддзя кваліфікаваных аўтараў. Тав. **Снежын** — рэдактар «Калгаснай праўды» — цалкам і поўнасцю згадзіўся з указаннямі журнала і абяцаў наладзіць справу.

І вось мы зноў у Асіпавічах і гутарым з тав. Снежыным на старую тэму аб пастаноўцы вучобы рабселькораў і рэдактароў калгасных насценгазет. Але дзіўная справа! Становішча ў асіпавіцкай рэдакцыі амаль не змянілася...

Возьмем такое важнае мерапрыемства ў галіне вучобы рабселькораў і калгасных рэдактароў, як завочныя курсы «Крестьянской газеты». Да сёньняшняга дня гэту справу рэдакцыя асіпавіцкай газеты не зрушыла з месца.

— Мы правялі вялікую работу па завочнай вучобе, — гаворыць тав. Снежын. — Звярнулі на гэту справу выключную ўвагу. Падабралі 48 завочнікаў. Паслалі ім ужо тры заданні...

Усё гэта правільна: завочнікі падабраны, тры заданні ім пасланы. Але гэта і ўсё, што рэдакцыя асіпавіцкай газеты зрабіла па арганізацыі завочнай вучобы рабселькораў. А гэта значыць, што не зрабіла амаль нічога.

На самой справе, якая карысць з таго, што рэдакцыя правяла запіс на курсы, пасылае завочнікам заданні, калі за адзінымі выключэннямі ніхто з завочнікаў не прапрацоўвае заданні як належыць? За тры месяцы рэдакцыя атрымала не больш 5 кантрольных работ завочнікаў.

Поспех завочнай вучобы можа быць забяспечан толькі тады, калі рэдакцыя дапаможа завочнікам у прапрацоўцы заданняў, будзе кантраляваць прапрацоўку, забяспечыць завочнікаў усім неабходным для вучобы. Нічога гэтага рэдакцыя «Калгаснай праўды» не робіць. За ўвесь час не адбылося ні адной кансультацыі завочнікаў, адсутнічае пісьмовая сувязь рэдакцыі з завочнікамі. Настаўнікі раёна не прыцягнуты для аказання дапамогі завочнікам у вывучэнні беларускай мовы.

Пры ўсім такім становішчы тав. Снежына не пакідае аптымізм. Зноў словы, зноў абяцанні...

— Не думайце, — гаворыць тав. Снежын, — што мы правалім завочную вучобу. Усё зробім, што належыць. Кансультацыі наладзім, з настаўнікамі дагаворымся — справа пойдзе.

Цікава адно: калі ўсё гэта будзе? Ці не мяркуе тав. Снежын заняцца вучобай рэдактароў насценгазет тады, калі пачнуцца палявыя работы?

***

Амаль усё сказанае можна паўтарыць і пра становішча завочнай вучобы рабселькораў у Пухавіцкім раёне.

У рэдакцыі газеты **«За калгасы»** (рэдактар т. **Панкратаў**) запалу хапіла толькі на падбор завочнікаў і пасылку трох першых заданняў. Як прапрацоўваюцца заданні, — аб гэтым у рэдакцыі газеты «За калгасы» не маюць ніякага ўяўлення. Пухавіцкая газета, як і асіпавіцкая, абмежавала сваю ролю ў завочнай вучобе рабселькораў толькі перасылкай завочнікам матэрыялаў, атрымліваемых з «Крестьянской газеты». Як і тав. Снежын, т. Панкратаў мяркуе паправіць справу «ў бліжэйшы час».

***

Такое прыкрае становішча работы двух раённых газет па завочнай вучобе рабселькораў. Аднак, няма ніякіх падстаў меркаваць, што ў дадзеным выпадку асіпавіцкая і пухавіцкая газеты складаюць выключэнне. Наадварот, матэрыялы, якія мы маем, сведчаць аб тым, што многія раённыя газеты Беларусі вельмі дрэнна кіруюць вучобай завочнікаў.

У гэтым сказваецца недаацэнка рэ-

дактарамі асобных газет вялікага значэння курсаў «Крестьянской газеты», як сродку вучобы рабселькораў, сродку падрыхтоўкі да пачатку палявых работ кваліфікаваных рэдактароў калгасных насценгазет. У гэтым сказваецца наогул нежаданне асобных рэдакцый пасапраўднаму ўзяцца за справу вучобы рабселькораў.

Часта прыходзіцца яшчэ чуць скаргі рэдактароў на недахват сродкаў для правядзення злётаў і семінараў рабселькораў. А ці мала рэдактароў раённых газет марацць яшчэ аб правядзенні велізарных пышных злётаў рабселькораў з духавым аркестрам, з трохгадзіннымі агульнымі дакладамі?

Курсы «Крестьянской газеты» — справа, якая амаль не патрабуе сродкаў і дае пры добрай пастаноўцы вучобы велізарны эфект. Гэта не толькі словы. У нас ёсць ужо багаты вопыт завочнай вучобы ў мінулым годзе. Варта назваць аршанскую раённую газету **«Ленінскі прызыў»**, якая к вясне 1935 года шляхам завочнай вучобы падрыхтавала каля 50 добрых рэдактароў калгасных насценгазет.

Завочную вучобу рабселькораў трэба **арганізаваць** — у гэтым галоўнае. Гэта павінен зразумець кожны рэдактар раённай газеты, бо арганізацыя вучобы завочнікаў у раёне ўскладзена выключна на раённую газету.

Што значыць арганізаваць вучобу завочнікаў? Перш за ўсё рэдакцыя раённай газеты павінна наладзіць **рэгулярныя** кансультацыі завочнікаў па прапрацаваных заданнях. Вопыт мінулых гадоў паказаў, што праводзіць кансультацыі лепш за ўсё па кустах з выездам кансультанта на месца.

Робіцца гэта так. Раён разбіваецца на кусты па некалькі сельсаветаў у кусце. Выбіраецца пастаяннае месца, пажадана ў цэнтры куста, куды завочнікі з'яўляюцца на кансультацыі. Такім месцам звычайна служыць памяшканне школы ці дома соцкультуры. Выбар памяшкання для кансультацый — не дробязнае пытанне. Памяшканне павінна быць прасторным, светлым, цёплым, каб завочнікі маглі распранууцца, сядзець за сталом ці за партамі. Завочнікаў трэба таксама забяспечыць папераю, алоўкамі, чарнілам. Усё гэта створыць дзелавую вучэбную атмасферу ў часе кансультацый, а гэта вельмі важна.

Колькасць пунктаў кансультацый залежыць ад распалажэння месца пражывання завочнікаў і ад колькасці кансультантаў.

Падбору кансультантаў рэдакцыі газет павінны аддаць выключную ўвагу, бо кансультант аказвае рашаючы ўплыў на паспяховасць завочнікаў. Кансультантамі трэба вылучаць толькі тых работнікаў рэдакцыі, якія па свайму палітычнаму і культурнаму ўзроўню могуць справіцца з гэтай работай. Імі ў першую чаргу павінны быць рэдактар і яго намеснік, а таксама найбольш моцныя работнікі рэдакцыі. Кожны з кансультантаў прымацоўваецца да пэўнага куста завочнікаў, у якім вядзе кансультацыі аж да завяршэння вучэбнага сезона.

Час кансультацыі размяркоўваецца так, каб першыя гадзіны займаліся падагульненнем прапрацоўкі задання па рабоце насценгазет, а астатнія гадзіны — падагульненнем задання па беларускай мове. У канцы заняткаў завочнікам расказваецца змест чарговай тэмы і раздаюцца заданні.

Кансультацыі павінны праводзіцца рэгулярна пасля прапрацоўкі завочнікамі чарговага задання, прычым аб дні і часе кансультацый кожнаму завочніку трэба паведаміць загадзя. Старшыні калгасаў абавязаны вызваляць ад работы калгаснікаў-завочнікаў на дзень кансультацыі з залічэннем завочніку сярэдняга працадня.

Вось прыблізная схема парадку правядзення кансультацый. Зразумела, гэта работа нялёгкая. Яна патрабуе пэўнай сістэмы і сістэматычнай падрыхтоўкі саміх кансультантаў да заняткаў.

На абавязку рэдактара ляжыць сачыць за тым, як кансультанты рыхтуюцца да заняткаў, склікаць нарады кансультантаў, правяраць падрыхтоўку кожнага з іх.

Як ні цяжка асобным рэдакцыям (гутарка ідзе аб рэдакцыях са слабым складам работнікаў), **кансультацыі завочнікаў павінны арганізаваць кожная раённая газета.** Час і работа, затрачаныя на арганізацыю завочнай вучобы рабселькораў, акупяцца з лішкам ужо

нават пасля добрай прапрацоўкі першых трох заданняў.

«Крестьянская газета», арганізаваўшая выданне лекцый па завочнай вучобе рабселькораў, дала рэдакцыям раённых газет магчымасць хутка рушыць наперад справу вучобы, выхавання кадраў нізавога калгаснага друку, справу выпрацавання новых кваліфікаваных аўтараў — селькораў. Кожная рэдакцыя раённай газеты павінна поўнасцю выкарыстаць гэту магчымасць.

---

# Як мы працуем з рабкорамі

Больш года існуе рабкораўскі габінет пры газеце **«Віцебскі пролетарый»**. Арганізацыя вучобы рэдактароў шматтыражак, фабрычна-заводскіх насценных газет і рабкораў — вось задача габінета. У габінеце кожны рабкор, рэдактар насценнай газеты павінен атрымаць грунтоўны адказ на ўсе пытанні, якія яго цікавяць.

Пачалі мы з таго, што арганізавалі семінар рабкораў па асобных пытаннях. Распрацавалі задачы прамысловасці і ролю друку ва ўздыме прамысловасці, пытанні партыйнага будаўніцтва. Гэта дало нам магчымасць выявіць рабкораўскі актыў і ўцягнуць яго ў работу газеты.

Вучобу мы арганізавалі такім чынам. Заняткі праводзілі 3 разы ў месяц. На занятках практычна вучылі рабкораў, як пісаць заметку, як яе выправіць і падаць у газеце. Бралі рабкораўскія заметкі і тут-жа іх апрацоўвалі. Гэты матэрыял у большасці змяшчаўся ў газеце.

На занятках рабілі вусныя агляды насценгазет-штодзенак і асобных заметак, змешчаных у газетах. Гэтыя агляды і газеты вывешваем на дошцы.

Зараз мы ўзяліся за арганізацыю пастаяннай вучобы з рэдактарамі фабрычна-заводскіх насценных газет. З імі мы намецілі правесці заняткі па спавышанай праграме, распрацоўку асноўных пытанняў, якія неабходна ўзняць зараз на старонках газет, як асвятляць у газеце тое, ці іншае пытанне. Першыя такія заняткі праведзены ўжо.

Для рабкораў, рэдактароў газет мы арганізавалі кансультацыю па ўсіх пытаннях не толькі газетнай справы, але і міжнароднай палітыкі. Гэтыя кансультацыі навочна паказалі рост палітычнага кругазору рабкораў і работнікаў газет. Так, рабкор **Наумоўскі** з фабрыкі «КІМ» цікавіўся пытаннем — якія супярэчнасці існуюць паміж капіталістычнымі краінамі па пытанню морскіх узбраенняў ! якія віды морскіх узбраенняў прапануюць на морскіх канферэнцыях Англія, Амерыка і Японія. На гэта пытанне Наумоўскі атрымаў падрабязны пісьмовы адказ. Для адказаў на розныя запытанні рабкораў рэдакцыя прыцягнула лепшыя сілы горада: прапагандыстаў, работнікаў навучальных устаноў і т. д.

Зараз мы арганізоўваем на 6 больш буйных прадпрыемствах горада курсы рабкораў-стаханаўцаў. Для кіраўніцтва гэтымі курсамі выдзелены загадчыкі аддзелаў нашай газеты. Курсы разлічаны на 3 месяцы. Заняткі будуць адбывацца 3 разы ў месяц.

Мы яшчэ дрэнна арганізавалі вучобу рэдактароў шматтыражак. Рэдка мы іх склікаем для абмеркавання асноўных пытанняў, якія трэба ўзняць на старонках шматтыражак.

Для лепшай арганізацыі масавай работы з рабкорамі трэба, каб цэнтральныя газеты больш асвятлялі вопыт масавай работы з рэдактарамі шматтыражак і насценных газет.

С. БАС, Б. ГРЫНМАН.

## НОВАЕ НА СТАРОНКАХ РАЁННЫХ ГАЗЕТ

* * *

### 1. ЗА КУЛЬТУРНЫ РАЁННЫ ЦЭНТР

Цэнтр новаарганізаванага Даманавіцкага раёна — мястэчка Азарычы. Гэта невялікае мястэчка. З арганізацыяй новага раёна мястэчка пачало значна расці. Узнімаюцца новыя пабудовы, жыццё стала больш шумным.

Аднак для таго, каб стаць сапраўды ўзорным культурным цэнтрам раёна, мястэчку яшчэ многага не хапае. Вось чаму асаблівую вартасць набывае тое, што раённая газета **«За большэвіцкія калгасы»** ўзняла на сваіх старонках пытанне аб ператварэнні мястэчка Азарычы ва ўзорны культурны раённы цэнтр.

Першыя матэрыялы па гэтаму пытанню надрукаваны ў газеце «За большэвіцкія калгасы» 8 студзеня. У гэтым нумары знаходзім рэдакцыйны артыкул, які выкрывае рад недахопаў у добрабыце мястэчка. Тут-жа змешчаны заметкі загадчыка раённай больніцы, санітарнага ўрача і настаўнікаў.

Як-жа даманавіцкая газета практычна ўяўляе сабе паляпшэнне добрабыту мястэчка? На гэта мы знаходзім адказ у памянёным рэдакцыйным артыкуле. Газета ставіць пытанне аб паскарэнні і паляпшэнні комунальнага будаўніцтва (клуба, студняў і інш.), аб паляпшэнні работы хлебапякарні (выпякаць тры гатункі хлеба і абаранкі), аб рабоце магазінаў і крам, аб прывядзенні ў парадак вуліц і іх асвятленні.

Усё гэта — надзенныя пытанні ў справе паляпшэння добрабыту мястэчка. Урачы і настаўнікі таксама далі ў сваіх заметках рад дзелавых парад. Тав. Фарбер (настаўнік), напрыклад, прапаноўвае ўстанавіць сістэматычныя метагляды вучняў, прыцягнуць да работы школы ўрачоў. Ён-жа даў некалькі парад, як абсталяваць чытальню дома соцкультуры.

Заметка загадчыка раённай больніцы т. Цукасава прысвечана санітарнаму стану раённых установаў, дамоў і двароў жыхароў мястэчка.

З гэтага-ж нумара даманавіцкай газеты даведваемся аб тым, што райком партыі і рэдакцыя газеты «За большэвіцкія калгасы» рыхтуюць культурна-бытавую канферэнцыю ў мястэчку, што арганізуюцца санітарныя брыгады для праверкі санітарнага стану ўстаноў, хат і двароў.

Першае выступленне газеты па пытаннях добрабыту мястэчка не засталося пустым стрэлам. 14 студзеня газета зноў цэлую старонку прысвяціла гэтаму пытанню. У ёй расказваецца аб тым, як у мястэчку і ў акружаючых калгасах рыхтуюцца да культурна-бытавой канферэнцыі. Газета асвятліла работу санітарных брыгад, брыгадзіры расказалі аб добрых культурных хатах калгаснікаў, а таксама і аб тых, якія яшчэ ўтрымліваюцца некультурна. Некалькі заметак асвятляюць падрыхтоўку да канферэнцыі ў калгасах раёна.

***

Мы падкрэслілі важнасць пытання, узнятага газетай «За большэвіцкія калгасы». Справа цяпер у тым, каб ініцыятыву даманавіцкай газеты падтрымалі іншыя раённыя газеты. Гэта ў першую чаргу адносіцца да газет новаарганізаваных раёнаў, якія, к слову сказаць, у сваёй большасці не могуць пахваліцца актыўнай барацьбой за ўзорны раённы цэнтр.

### 2. АЛІМПІЯДА САМАДЗЕЙНЫХ МАСТАЦТВАЎ

У Пухавіцкім раёне рыхтуецца раённая алімпіяда самадзейных мастацтваў. У канцы студзеня ў мястэчку Пухавічы з усіх канцоў раёна, з прадпрыемстваў, калгасаў, школ з'едуцца майстры розных відаў мастацтваў. Тут будуць спевакі, скрыпачы, цымбалісты, балалаечнікі, гарманісты, расказчыкі, танцоры і танцоркі.

Калгаснікі і калгасніцы, брыгадзіры, комсамольцы і комсамолкі, піонеры і піонеркі на адзін дзень пакінуць сваю работу і вучобу, каб на сцэне раённага дома соцкультуры перад шматлікай аўдыторыяй паказаць свае таленты, праспяваць песні радасці і вясельля.

Ініцыятыва правядзення раённай алімпіяды самадзейных мастацтваў на-

лежыць рэдакцыі раённай газеты **«За калгасы»**. У нумары газеты ад 21 снежня 1935 г. змешчана пастанова райкома партыі, у якой райком ухваляе ініцыятыву газеты «За калгасы» і намячае мерапрыемствы па падрыхтоўцы да алімпіяды. З ліку райпартактыва камандзіруюцца 14 чалавек для дапамогі калгасным гурткам самадзейнасці ў выяўленні талентаў, наладжванні работы драматычных, струнных, харавых гурткоў. Райкому комсамола прапанавана вылучыць для гэтай-жа работы комсамольцаў. Вылучан спецыяльны фонд для прэміравання лепшых выканаўцаў.

Па далейшых нумарах газеты «За калгасы» можна прасачыць, як ідзе падрыхтоўка да алімпіяды. Газета друкуе матэрыялы аб рабоце драматычных, музычных гурткоў, расказвае пра асобных музыкаў і спевакоў — будучых удзельнікаў алімпіяды.

Але газеце трэба ўказаць і на недахопы. Паказ работы гурткоў самадзейнасці і асабліва паказ асобных майстроў робіцца газетай не заўсёды ўдала. Мала жыцця ў гэтых апісаннях, мала сапраўднай жывой перадачы ўсяго таго багацця фарбаў, пачуццяў, якія ўласцівы народнай мастацкай самадзейнасці. Што, напрыклад, дае чытачу голае пералічэнне ў газеце прозвішчаў спевакоў, музыкаў таго ці іншага калгаса? Ці не лепш было-б, каб у кожным, ці праз адзін, нумары газеты чытач мог прачытаць яркую, сакавітую зарысоўку, няхай пра аднаго выдатнага музыку, спевака, ці зарысоўку заняткаў гуртка самадзейнасці, калгаснай вечарынкі?

Вось у гэтым напрамку і павінна працаваць рэдакцыя газеты «За калгасы» ў галіне асвятлення падрыхтоўкі да раённай алімпіяды.

### 3. ЮБІЛЕЙ КАЛГАСА

Калі 18 студзеня калгаснікі Аршаншчыны разгарнулі свежы нумар раённай газеты **«Ленінскі прызыў»**, іх увагу прыцягнуў аншлаг — «Квітнее «Чырвоны сад».

Так газета азагла віла матэрыял, прысвечаны дзесяцігоддзю існавання аднаго з перадавых калгасаў раёна. Кароткі артыкул знаёміць чытачоў з гісторыяй сялян вёскі і хутароў «Сметанкі», з іх барацьбой пад кіраўніцтвам партыі за ўмацаванне калгаснага ладу.

Спецыяльны артыкул прысвечан выдатным людзям, якія выраслі ў калгасе за 10 год. А тут газеце было аб чым расказаць! У калгасе ёсць даярка Дар'я Гарошкіна, якая дабілася ўдою кароў, якіх даглядае, у 1.700 і 2.000 літраў малака ў год. Або Ульяна Шыбека. Гэта калгасніца на працягу мінулага года выгадавала 35 цялят. Работа гэтых, таксама як і многіх другіх стаханавак і стаханаўцаў калгаса, з любоўю апісана ў газеце.

Добра напісан артыкул «Успаміны». Ён знаёміць чытача з жабрацкім жыццём сялянскай беднаты вёскі «Сметанкі» да рэволюцыі, іх барацьбой з памешчыкам Чачыковым. Артыкул уваскрашае ў памяці яркія эпізоды з часу барацьбы з эксплаататарамі.

Такім чынам, рашыўшы адзначыць дзесяцігоддзе існавання калгаса «Чырвоны сад», рэдакцыя газеты «Ленінскі прызыў» дала сваім чытачам старонку яркага каштоўнага матэрыялу, які паказвае на канкрэтным прыкладзе аднаго калгаса ўмацаванне калгаснага ладу, рост заможнасці, рост людзей.

Ініцыятыва аршанскай раённай газеты наштурхвае нашы рэдакцыі яшчэ на адну мысль. Чаму рэдакцыі раённай газеты не арганізаваць юбілей аднаго-двух лепшых калгаснікаў і калгасніц раёна?

У кожным раёне знойдуцца калгаснікі і калгасніцы, якім спаўняецца 90—100 год і якія, пражыўшы доўгае працоўнае жыццё, прадаўжаюць прымаць актыўны ўдзел у жыцці калгаса. Чаму не арганізаваць у сям'і вось такога калгасніка ці калгасніцы вечар у адзнаку юбілею? Успамянуць на гэтым вечары яркія эпізоды з жыцця юбіляра, запрасіць на вечар калгасных музык, спевакоў. Няма сумнення, што добра апісаны вось такі юбілей дасць чытачам газеты, асабліва моладзі, велізарную карысць. А колькі радасці прынясе гэта самому юбіляру, яго сям'і, яго аднавяскоўцам!

Няхай рэдактары і работнікі раённых газет падумаюць аб гэтых пытаннях.

# З газетай нешта няладнае

У нядзелю 27 кастрычніка мінулага года ў м. Асвея можна было наглядаць цікавую карціну. З раніцы жыхары мястэчка заклапочана рашалі складанае пытанне: якое сёння чысло?

— Паглядзіце на каляндар, — адказвалі тыя, што не ведалі ў чым справа.

— Што каляндар! — не сціхалі другія. — Ведаеце прыказку: усе хлусяць календары. Вось паглядзіце сёнешні нумар **«Ленінскага сцяга»**.

І сапраўды на нумары стаяла дата — 25 кастрычніка.

— Можа гэта стары нумар, — не супакойваліся ярыя прыхільнікі календароў. Іх апаненты даставалі ранейшы нумар «Ленінскага сцяга». На ім таксама стаяла 25 кастрычніка...

Падобныя сюрпрызы рэдакцыя асвейскай газеты падносіць сваім чытачам не так ужо рэдка. Праз кароткі час бачым 2 зусім розныя нумары газеты—за 25 і 28 лістапада, а парадкавы нумар аднаго і другога аднолькавы — 106 (408).

Але было-б паўбяды, калі-б нядбайнасць работнікаў газеты «Ленінскі сцяг» адбівалася толькі на датах і парадкавых нумарах газеты. Жыхары Асвейскага раёна ў гэтых адносінах усё-ж больш вераць календарам, чым раённай газеце. Уся бяда ў тым, што і многія матэрыялы газеты нясуць на сабе адбітак нядбайства і неахайнасці.

Асобныя артыкулы напісаны так, што мімаволі запытаеш: на якой мове людзі пішуць?

11 снежня ў артыкуле «У калгасе «Кастрычнік», напрыклад, чытаем: **«...марудна мы ўбіралі ўраджай і другія непаладкі»**. А крыху ніжэй у тым-жа артыкуле — «...мы такога дадзім ураджаю, што на дзіва».

Многія раённыя газеты ўжо даўно пакінулі дрэнную прывычку ўжываць скарачэнні, а «Ленінскі сцяг» па-ранейшаму стракаціць такімі рэбусамі, як «с/с,», «с/п», «КСМарганізацыя» і інш.

У рэдакцыі нават не ведаюць, як правільна пішуцца дзесятковыя дробы. Чатыры сотых тут, напрыклад абазначаюцца так — 0,4.

Можна было-б у якасці падобнага прыкладу працытаваць вытрымку з пераказу даклада т. Мартынава — старшыні райвыканкома (нумар за 16 кастрычніка), але шкада месца: адзін сказ гэтай вытрымкі займае ні многа, ні мала — **семнаццаць радкоў!**

Ну як не згадзіцца з падпісчыкамі «Ленінскага сцяга»? Сапраўды ў рэдакцыі асвейскай газеты нешта няладнае.

## ПА СТАРОНКАХ РАЁННАГА ДРУКУ

* * *

### УСЕСАЮЗНЫ РЭКОРД НАДЗІ КРАЎЦОВАЙ

Не так даўно Надзя **Краўцова** была звычайнай свінаркай соўгаса **«Чырвоны маяк»** (Журавіцкі раён). Але словы тав. **Сталіна** на ўсесаюзнай нарадзе стаханаўцаў глыбока запалі ў душу Надзі і яна рашыла стаць стаханаўкай сваёй справы.

І Надзя дабілася свайго. Сутачны сальны прырост свіней, якіх даглядае т. Краўцова, расце з кожным днём. У апошні час ён дайшоў да 3.500 грамаў на кожную свінню, што з'яўляецца ўсесаюзным рэкордам. Тав. Краўцова атрымала прасторную кватэру, багатае абсталяванне.

Аб метадах работы стаханаўкі тав. Краўцовай падрабязна расказвае ў нумары за 11 студзеня раённая газета **«Сталінец»**.

### ВЫРАТАВАНАЕ ЖЫЦЦЁ.

«Як выратавана жыццё калгасніцы Трафімавай» — пад такім загалоўкам 16 студзеня змясціла артыкул урача тав. Стольберга **багушэўская** раённая газета **«Сталінскі шлях»**.

Калгасніцы Трафімавай патрабавалася тэрміновая хірургічная дапамога. Хворую даставілі ў багушэўскую раённую больніцу, але там гэту аперацыю зрабіць было нельга. Хворай пагражала смерць. Урач тав. Стольберг пазваніў старшыні РВК, атрымаў машыну і хворую без затрымання даставілі ў Віцебск. Там ёй была зроблена аперацыя, якая прайшла вельмі ўдала. Тав. Трафімава цяпер зусім здаровая.

— Толькі ў нашай краіне так цэняць і чула адносяцца да жывога чалавека, — канчае артыкул тав. Стольберг.

## ДЗЕНЬ КАЛГАСНІКА ЛІЎШЫЦА

Рэдакцыя **жлобінскай** раённай газеты **«Шлях соцыялізма»** задалася мэтаю апісаць дзень культурнага заможнага калгасніка. У якасці аб'екта была ўзята сям'я тав. **Ліўшыца** — конюха-ўдарніка калгаса «Эрштэр май».

У рэзультаце ў нумары газеты за 16 студзеня з'явілася цікавая карэспандэнцыя «Культурнае і заможнае жыццё тав. Ліўшыца». На яркіх прыкладах жыццёвых дробязей газета паказала рост заможнасці і культурнасці перадавога калгасніка.

## «НА КУЛЬТУРНЫЯ ТЭМЫ»

Быхаўская раённая газета **«Маяк комуны»** з новага гада пачала перыядычна друкаваць заметкі «На культурныя тэмы». Ужо змешчаны тры падборкі. Тэмы гэтых заметак — работа бібліятэк у калгасах, дамоў соцкультуры, чытаемасць калгаснікамі газет і літаратуры, стан калгасных канцэлярый і інш.

## УЛЬЯНА АРЦЁМЕНКА КУПІЛА КНІГУ «ЧАПАЕЎ»

У нумары за 18 студзеня **рагачоўскай** газеты **«Комунар»** у аддзеле «Па гораду і раёну» надрукавана цікавая заметка «Ульяна Арцёменка купіла кнігу «Чапаеў». Вось гэта заметка поўнасцю:

«Калгасніца арцелі імя Гікало, Мадорскага сельсовета, Ульяна Арцёменка, прыехаўшы ў горад, зайшла ў кнігарню.

— Дайце мне «Чапаева», звярнулася яна да прадаўшчыцы. Купіўшы кнігу, яна расказала: «Сын мне чытаў гэту кнігу, але не ўсю. Вось я зайшла сягоння купіць яе. Вельмі-ж хочацца ведаць пра Чапаева».

Гэта заметка гаворыць адначасова аб велізарным росце культуры ў калгасах і аб тым, як лёгка можна зрабіць газету цікавай, калі гэтага хоча рэдакцыя.

## ПАЕЗДКА Ў ТЭАТР.

900 лепшых калгаснікаў і калгасніц **Лёзнянскага** раёна 17 студзеня ездзілі ў Віцебск на калектыўны прагляд п'есы «Гібель эскадры» ў 2-м Беларускім дзяржаўным тэатры. Справаздача аб паездцы надрукавана ў раённай газеце **«Ленінскі сцяг»** 19 студзеня. У газеце падрабязна апісана, з якою радасцю калгаснікі і калгасніцы ехалі ў тэатр, з якім захапленнем глядзелі выдатную п'есу Карнійчука, які цёплы прыём быў аказан калгаснікам рабочымі і арганізацыямі Віцебска.

У гэтым і ў наступным нумары газета змясціла выступленні некалькіх калгаснікаў і калгасніц аб сваіх уражаннях ад паездкі.

## НАВІНЫ РАЁНА ЗА ДЗЕНЬ

Аддзел «Сёння ў раёне» **горацкая** раённая газета **«Ленінскі шлях»** увяла ўжо даўно. Для кожнага нумара газеты рэдакцыя падбірае ў гэты аддзел кароткія паведамленні пра найбольш важныя падзеі ў раёне. Вось змест трох заметак, змешчаных у аддзеле «Сёння ў раёне» 18 студзеня.

Першая — паведамленне пра набыццё Ленінскім сельсоветам уласнага кіноапарата і дэманстрацыю ў сельсовеце фільма «Чапаеў». Другая — пра арганізацыю ў калгасе імя Кірава самадзейнага тэатра. У трэцяй заметцы расказваецца пра пачатак раённых лыжных спаборніцтваў.

## ФАМА ІВАНАВІЧ ВЯРНУЎСЯ З КУРОРТА.

Фама Іванавіч **Зайцаў** — калгаснік калгаса **«Перамога»** (Талачынскі раён) вярнуўся з Кіславодска. Жыццё на курорце, дарога туды і назад зрабілі на т. Зайцава незабыўнае ўражанне. Былы бядняк Фама Іванавіч адпачываў і лячыўся ў палацах, дзе раней праводзілі час магнаты і купцы. Яго лячылі лепшыя ўрачы, выдатна кармілі, ён любаваўся велічнымі відамі гор... Па дарозе назад Фама Іванавіч спыніўся ў Маскве і на месцы маленькага доміка, у якім жыла раней яго сястра, убачыў цудоўны шматпавярховы дом...

Аб усім гэтым 15 студзеня расказала сваім чытачам газета **«Калгаснік Талачыншчыны»** ў артыкуле «Толькі пры совецкай уладзе».

